www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 60 (3801)

2 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Згодна з афіцыйнай статыстыкай, заробак больш за 500 долараў пасля выплаты падаткаў у краіне атрымліваюць менш за 363 тысячы чалавек. Гэта прыкладна 10,8% тых, хто працуе. Прычым больш за палову гэтых «шчасліўцаў» жыве ў Мінску. Большая частка беларусаў, як высвятляецца, мае заробак усяго 2—3 мільёны рублёў. І ў іх адна думка: як звесці канцы з канцамі, адным словам, як выжыць?***

ГАРАЧАЯ ТЭМА

# «Я з буфернай вёскі...»

***Барацьба з афрыканскай чумой свіней ахоплівае ўсё новыя рэгіёны, хаця ніякіх новых успышак захворвання не рэгіструецца. Па крайняй меры калі верыць афіцыйнай інфармацыі. Так, ветэрынарныя службы прынялі рашэнне забараніць утрыманне свіней на адлегласці пяці кіламетраў ад свінакомплексаў, і забой пачаўся па ўсёй краіне.***

Акрамя таго, да 40-кіламетровай зоны ад успышкі АЧС у вёсцы Чапунь Іўеўскага раёна дадалі тэрыторыю Ляхавіцкага раёна. Такім чынам, і гэты раён аб'яўлены першай пагражаемай зонай па афрыканскай чуме, і гэта значыць, што ўсе свінні тут павінны быць знішчаны.

Але і гэта не ўсё. Утворана яшчэ і так званая буферная зона, у якой таксама забаронена трымаць свіней. Гэта Баранавіцкі, Івацэвіцкі і Пружанскі раёны. Людзі такімі рашэннямі ўзбуджаны і абураны.

Жыхароў вёскі Малая Сваратва Баранавіцкага раёна абавязалі выразаць свіней да 16 жніўня. Калі яны адмовяцца гэта зрабіць, пагражаюць штрафамі.

— Сёння раніцай *(учора. —* **Аўт.**) у вясковым клубе людзі сустракаліся з раённым кіраўніцтвам, — распавёў "Народнай Волі" адзін з удзельнікаў сустрэчы **Іван Сцяпанавіч АФАНАСІК.** — Наведаўся начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Баранавіцкага райвыканкама Міхаіл Палуян. Разам з міліцыяй прыехаў. Народ з суседніх вёсак падцягнуўся, бо сёння для людзей забой свінняў — гэта боль і галоўная тэма дня. Чыноўнік на сходзе заявіў, што наш рэгіён увайшоў у нейкую буферную зону (45 кіламетраў да свінакомплексу), таму да 16 жніўня ўсім трэба закалоць сваіх свіней. Калі хтосьці адмовіцца гэта зрабіць, то нават будуць штрафаваць. А ў мяне, напрыклад, сем свіней. Што рабіць з мясам? Аднаго парсюка дзецям у Мінск аддам, аднаго ў халадзільнік... А што з астатнімі? Здаваць па 16—18 тысяч за кілаграм?.. Вы лічыце, што гэта нармальная цана? Я ж купляю свінак па 50 тысяч за кіло. А колькі пайшло на тое, каб іх пракарміць, выгадаваць? Гэта проста здзек. Да таго ж няхай бы паказалі ці назвалі афіцыйны дакумент, на падставе якога патрабуюць забіваць свіней. Не паказалі і не назвалі. Кажуць: "Потым". А свіней забіваць — зараз.




Жыхары вёскі Суйкава Віцебскага раёна ўсхваляваны "свінскай" чумой.

З аналагічнымі скаргамі звярнуліся ў рэдакцыю і жыхары вёскі Паланечка. Яны кажуць, што іх не ўгаворваюць, а проста запалохваюць, прымушаючы забіваць свіней. Прычым палохаюць не толькі штрафамі.

Як высветлілася, Міністэрства сельскай гаспадаркі сапраўды падышло да справы сур'ёзна і папярэджвае людзей, якія не выканаюць распараджэнне аб знішчэнні свіней, аб крымінальнай адказнасці. Такая ж адказнасць прадугледжана і для тых, хто будзе вырошчваць свіней у той час, як гэта рабіць забаронена. Адпаведнае папярэджанне было апублікавана Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання. Ведамства папярэджвае, што "парушэнне ветэрынарных правіл, што пацягнула па неасцярожнасці распаўсюджванне заразных хвароб жывёл, цягне крымінальную адказнасць — абмежаванне або пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў".

За невыкананне ветэрынарных правіл, якое не прывяло да распаўсюджвання заразы, паводле Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжана папярэджанне або штраф да 20 базавых велічынь (сёння гэта 2 мільёны рублёў).

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Выбуховае прыстасаванне зрабіла жанчына?*

Расследаванне крымінальнай справы аб выбуху каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці ў лістападзе 2011 года завершана.

*"Матэрыялы крымінальнай справы перададзены ў пракуратуру Віцебскай вобласці для накіравання ў суд",* — паведаміла агенцтву "Інтэрфакс-Захад" афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці **Іна Гарбачова.**

*"Следствам устаноўлена, што 11 лістапада 2012 года а 19-й гадзіне каля адміністрацыйнага будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці здзейснены выбух незаконна вырабленым самаробным выбуховым прыстасаваннем. Канчатковае абвінавачанне ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.339 (Асабліва злоснае хуліганства) КК Рэспублікі Беларусь, прад'яўлена раней судзімай 42-гадовай жыхарцы Віцебска",* — адзначыла прадстаўнік УСК.

Паводле яе слоў, *"у ходзе расследавання крымінальнай справы следчымі здабыты неабвержныя доказы віны абвінавачанай". "Праведзеная генатыпаскапічная экспертыза выявіла поўную адпаведнасць канфіскаваных падчас агляду месца здарэння генетычных слядоў узорам, адабраным ў абвінавачанай",* — падкрэсліла Іна Гарбачова. Яна распавяла, што *"ў вынікуператрусу па месцы жыхарства абвінавачанай былі канфіскаваны прадметы, якія прама паказваюць на падрыхтоўчыя да дадзенага злачынства дзеянні".*

Абвінавачаная цалкам прызнала віну ў здзяйсненні злачынства, прыняла ўдзел у правядзенні следчага эксперымента, дзе падрабязна апісала механізм вырабу самаробнай выбуховай прылады. Хаця гэта, напэўна, будзе першы выпадак у крымінальнай гісторыі свету, калі жанчына сама рабіла выбухоўку.

НОВЫЯ ІМЁНЫ

## *Сяргей КУЗОЎЧЫКАЎ, хімік-вундэркінд:*
## ***«За навуковую працу ў багатых краінах плацяць 200—300 тысяч долараў у год»***

*Юнак, што ўвайшоў у дзясятку самых таленавітых маладых хімікаў свету, пакідае Беларусь, хоць і думае, што будзе сумаваць па радзіме.*

Выпускнік сталічнай гімназіі №1 імя Ф.Скарыны **Сяргей Кузоўчыкаў** стаў дзявятым у свеце па выніках 45-й Міжнароднай хімічнай алімпіяды школьнікаў. Вялікі поспех, тым больш што ў алімпіядзе, якая праходзіла ў Маскве з 15 па 24 ліпеня на базе хімічнага факультэта МДУ ім.М.В.Ламаносава, бралі ўдзел каля 300 школьнікаў з 75 краін.

Няцяжка здагадацца, што перамога ў Мендзялееўскай алімпіядзе дае юнаку магчымасць стаць студэнтам Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, атрымаць месца ў інтэрнаце, стыпендыю. І беларус не стаў яе ўпускаць, хоць такое ж права — паступіць па профілі ў любую ВНУ роднай краіны — давала яму прызавое месца ў Беларускай рэспубліканскай алімпіядзе па хіміі.

*"МДУ — вельмі прэстыжная ВНУ, калі мы кажам аб прасторы былога Савецкага Саюза,* — распавёў Сяргей "Народнай Волі". — *Хаця я думаў і аб еўрапейскіх ці амерыканскіх універсітэтах. Але пакуль я з'яўляюся студэнтам першага курса МДУ і хаця б некалькі гадоў планую правучыцца там. А што будзе далей — паглядзім".*

Сяргей прызнаецца, што пакідаць радзіму цяжка — у Мінску застаюцца сям'я і сябры. А вось у роднай гімназіі №1 хоць і турбуюцца аб будучыні былога вучня, але ўхваляюць яго рашэнне.

*"У гімназіі ўсе хвалююцца, як я там буду адзін у Маскве,* — дзеліцца малады хімік. — *Пры гэтым усе кажуць, што Масква — гэта перспектыва. Гэта будучыня, грошы, навука. І я не магу не пагадзіцца з гэтым".*



Пакуль у Сяргея Кузоўчыкава канікулы, і ён рыхтуецца да студэнцкага жыцця. Між тым не выключана, што разам з месцам у прэстыжнай ВНУ яму прапануюць і працу. Буйныя кампаніі часцяком падбіраюць выдатных спецыялістаў яшчэ са студэнцкай лавы. І Сяргей да гэтага гатовы.

*"Пакуль ніякіх прапаноў аб працы мне не паступала, але я ўпэўнены, што яны будуць,* — дзеліцца юнак. — *За навуковую працу ў багатых краінах плацяць неверагодныя грошы — 200—300 тысяч долараў у год".*

Поспех Сяргея не можа не ўражваць, і хочацца пажадаць яму толькі ўсяго самага лепшага. Вось толькі шкада, што далейшае развіццё юнага вундэркінда будзе мала звязана з радзімай.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НАДВОР'Е

## *На выхадных — цёпла, на наступным тыдні — горача*

У бліжэйшыя выхадныя ў Беларусі будзе цёпла. Пра гэта паведаміла галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Людміла Парашчук.**

У пятніцу, 2 жніўня, ноччу месцамі, днём — на большай частцы тэрыторыі Беларусі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах — навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 9—15 градусаў, днём будзе ад 18 да 24 градусаў цяпла.

Па словах галоўнага сіноптыка, у выхадныя дні 3—4 жніўня на Беларусь з Заходняй Еўропы пачне распаўсюджвацца вобласць павышанага атмасфернага ціску, сфарміраваная ў цёплым паветры. Дажджы паступова спыняцца. У суботу яны будуць толькі па ўсходзе краіны, а ў нядзелю днём — месцамі па Гомельскай і Магілёўскай абласцях.

"На пачатку наступнага тыдня Беларусь усё яшчэ будзе заставацца ў вобласці павышанага атмасфернага ціску і цёплых паветраных мас", — сказала Людміла Парашчук. Тэмпература паветра ўначы складзе 12—17 градусаў вышэй за нуль, днём паветра будзе прагравацца да 24—29 градусаў, па паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці — да 30—32 градусаў. А ў сераду, 7 жніўня, на тэрыторыю Беларусі пачнуць паступаць вельмі цёплыя паветраныя масы з паўднёвага захаду Еўропы. Тэмпература паветра ў начныя гадзіны складзе плюс 13—18 градусаў, у разгар дня паветра прагрэецца да 27—33 градусаў са знакам плюс. Будзе пераважна без ападкаў.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Хто першы парушыць цішыню — КДБ ці Касцёл?

*Справа ксяндза **Уладзіслава Лазара** мае ўсе шанцы трапіць у шэраг самых гучных за апошнія дваццаць гадоў. Пра арышт беларускі КДБ ксяндза пішуць сусветныя СМІ. Яно і не дзіўна: "ксяндзы-шпіёны"— гэта нейкі прывід сталінскіх часоў, які раптам паўстаў з магілы.*

У мінулым нумары "Народнай Волі" паведамлялася аб тым, што ксёндз Уладзіслаў Лазар пасля таго, як атрымаў адукацыю за мяжой, працаваў у Мінску. З 2007 года — у Мар'інай Горцы, сёлета, з 14 красавіка, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч перавёў яго служыць у Барысаў. Прычым у Барысаве ксяндзу трэба было, як і ў Мар'інай Горцы, усё пачынаць з нуля і нават у горшых умовах. У Мар'інай Горцы ён будаваў касцёл на месцы былой электрастанцыі (па сутнасці, кацельнай), а ў Барысаве яго чакаў звычайны гараж нават без падмурку. Сябры святара дапамаглі яму расчысціць тэрыторыю ад хмызняку і смецця, але да будаўніцтва справа так і не дайшла, бо ў чэрвені Уладзіслава Лазара арыштавалі. Дагэтуль не вядома, дзе, як і пры якіх абставінах гэта адбылося. Хаця ў размовах карэспандэнта "Народнай Волі" з вернікамі раптам высветлілася, што для іх гэтае пытанне не мае ніякага значэння. Усе, як адзін, казалі, што айцец Уладзіслаў не можа быць ні шпіёнам, ні здраднікам, ні агентам.



Не так часта ў журналісцкай практыцы можна пачуць пра аднаго чалавека столькі цёплых слоў, прычым ад вялікай колькасці суразмоўцаў. Асоба Уладзіслава Лазара выклікае столькі павагі і гонару за тое, што ў краіне усё-такі ёсць адданыя сваёй справе людзі, што я пайшла ў Архікафедральны касцёл Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі, дзе некалі працаваў святар Уладзіслаў, каб замовіць імшу за ягонае здароўе. Зайшла ў захрустую, назвала імя таго, за каго прашу маліцца. У адказ мне паказалі журнал, дзе ўжо некалькі лістоў спісаны гэтым самым імем. Прычым людзі ідуць і ідуць, імшу замаўляюць не толькі за сябе ці сваіх блізкіх, а і за чужога чалавека, часта нават невядомага ім святара.

Самае дзіўнае, што і КДБ, і Касцёл дагэтуль маўчаць — ніводнага каментарыя. Дагэтуль не вядома нават, у якім статусе трымаюць святара — падазронага ці абвінавачанага. Не названы і артыкул Крымінальнага кодэкса, які, на думку следчых, парушыў святар. І паколькі няма ніякай афіцыйнай інфармацыі, распаўзаюцца чуткі. Хтосьці камусьці "дакладна паведаміў", што 1 жніўня Уладзіслава Лазара ўжо будуць судзіць. Карэспандэнту "Народнай Волі" давялося наведаць суд Цэнтральнага раёна, Вярхоўны суд, Дом правасуддзя, каб пераканацца, што справа ксяндза Уладзіслава туды не паступала.

Тым часам яна набірае розгалас. У інтэрнэце пачаўся збор подпісаў з патрабаваннем адпусціць Уладзіслава Лазара хаця б пад падпіску аб нявыездзе. Адначасова ідзе збор подпісаў пад зваротам да мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча з заклікам не маўчаць.

Таксама ў інтэрнэце людзі абмяркоўваюць, навошта беларускія ўлады арыштавалі каталіцкага святара. Прычым большасць удзельнікаў дыскусіі бачаць у гэтым палітычны сэнс.

Цяпер ужо цяжка сказаць, якая была першапачатковая мэта ініцыятараў узбуджэння крымінальнай справы супраць святара, які апрыёры не мае ніякага доступу да дзяржаўных сакрэтаў. Але відавочна, што па-ціхаму давесці гэтую справу да суда ўжо не атрымаецца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Второй сорт

Литовцы преподнесли нам очередной урок. Показали, чего заслуживают те, кто себя не уважает.

Если кто-то не ездил в Вильнюс по новому железнодорожному маршруту, который, как анонсировалось, сокращает время в пути до 2,5 часа, расскажу, как это выглядит.

Поезд Минск—Вильнюс действительно проходит расстояние между двумя столицами за 2,5 часа. С белорусской стороны досмотр пассажиров и проверка документов производится прямо в пути. В Молодечно в вагоны заходят приветливые и улыбчивые белорусские таможенники и пограничники, "штампуют" паспорта, выборочно проверяют багаж и на станции Гудогай выходят из поезда. Всем удобно, все довольны.

А потом поезд прибывает в Вильнюс.

На перрон из шести вагонов, расталкивая друг друга, вываливаются пассажиры, и начинается забег до подземного перехода, так называемого пограничного терминала. Здесь установлены будки пограничного контроля — четыре окошка, из которых вначале, как правило, граждан Беларуси обслуживают только два. Еще два предназначены для прохождения границы гражданами ЕС.

На небольшом пятачке в самом переходе места хватает не всем. Хвост очереди остается на улице, часть толпы располагается на крутой и узкой лестнице под стеклянной крышей. Многие из тех, кто не успел в первые ряды, идут на различные уловки: чаще всего пассажиры с чемоданами и сумками просят пропустить их вне очереди и клянутся, что опаздывают на самолет. Многие раздражаются, становятся вспыльчивыми, готовы сорваться по любому поводу. Хамские замечания, оскорбления в такой толпе наших соотечественников — привычное дело. Те, кто "тормознул" в вагоне и не успел в первые ряды, в очереди в Европу могут задержаться на час и даже на полтора (!).

На обратном пути такого столпотворения в пограничном терминале нет. Но есть другие "прелести", появившиеся с "упрощением" таможенного и пограничного контроля на белорусско-литовской границе.

Все понимают, что вскочить в поезд за 5 минут до его отправления не получится, приходят заблаговременно, некоторые за час и два. Те, кто успел пораньше, занимают места на паре-тройке скамеек, установленных в подземном переходе и на перроне. Остальным ничего не остается, как пройти в вагон (поезд подают на перрон заблаговременно). Уже за полчаса до отправления места в вагонах почти все заняты, проходы заставлены чемоданами, сумками, пакетами. Металлические решетки для багажа над головами пассажиров тоже завалены поклажей. Несмотря на то что открыты окна, дышать нечем. Не вагон — душегубка.

Белорусы ругаются, возмущаются, что литовцы поставили их в унизительное положение, сделали людьми второго сорта, словно сами не жили в советское время и не знают, каково это — быть гражданами страны, отгородившейся от всего мира железным занавесом. Клянут тех, в чьи светлые головы пришла такая идея. Время поезда в пути действительно сократилось, но пассажиры от этого не выиграли, их путь в Европу стал длиннее и неудобнее.

Но, если разобраться, кто в этом виноват?

Скорее всего литовцы искренне верили, что погранконтроль на вокзале будет проходить оперативно и слаженно, и не предполагали, что новая процедура вызовет столько критики со стороны пассажиров. В конце концов, они сделали более комфортной работу для своих пограничников и таможенников. И это их право. Почему они должны думать о белорусах, если мы сами о себе позаботиться не можем?! Не литовцы, а мы, белорусы, должны требовать от своего правительства нормализации отношений с Европой и отмены виз. Ведь очереди в пограничном терминале вильнюсского вокзала — это вторая серия фильма под названием "Поездка белоруса в Европу". Первая начинается у посольств стран ЕС, где белорусы простаивают еще большие очереди и тратят еще больше времени, чтобы получить заветную шенгенскую визу.

А в это время европейские чиновники просто уговаривают белорусские власти сделать шаги, которые позволят упростить процедуру выдачи шенгенских виз для граждан Беларуси. Например, та же Литва ждет, когда Беларусь наконец-то согласится на выдачу специальной визы на 5 лет за 20 евро для жителей приграничной зоны. А это почти полтора миллиона белорусов и литовцев! А сколько лет Европа предлагает Беларусь включиться в программы "Восточного партнерства"! Политики и дипломаты устали повторять, что одно из главных преимуществ этого сотрудничества — упрощение процедуры оформления шенгенских виз и цена на них. Для граждан стран "Восточного партнерства" она стоит 35 евро, а не 60, как для белорусов. Молдаване, украинцы, грузины могут получать визы по такой цене, правительства этих стран ведут переговоры с Брюсселем о полной отмене визового режима для поездок в страны Евросоюза для граждан своих стран, а нашим властям, видите, это не надо. Им самим путь в Европу заказан, так чего беспокоиться по поводу неудобств для простых людей? Тем более что эти люди, если кого и обвиняют, так литовское государство, литовских таможенников, литовских пограничников, литовскую нерасторопность, но от поездок в "ближний Евросоюз" не отказываются. Более того, белорусов, желающих попасть в Европу, становится все больше.

В прошлом году только литовское и польское посольства выдали белорусам более 500 тысяч шенгенских виз. Посол Литвы в Беларуси Эвалдас Игнатавичюс рассказал, что за последние три года динамика роста количества шенгенских виз, выданных их посольством, составляет 40% ежегодно. Ни для кого не секрет, что белорусы стремятся в Европу прежде всего из экономии, за дешевым товаром, дешевой услугой. Например, литовцы уже давно в шутку называют вильнюсский аэропорт "Минском-3". Ежедневно 240—250 белорусов совершают вылеты из Вильнюса. И будут терпеть изнуряющие очереди на границе, чтобы долететь в Париж за 25 евро из Каунаса или Вильнюса, а не за 243 евро из Минска.

Недавно литовцы признали, что ничего хорошего из идеи организовать пограничный и таможенный контроль на вильнюсском вокзале не получилось. И сейчас озадачены тем, как решить проблему очередей во время проведения погранконтроля. Возможно, они вернутся к прежнему порядку досмотра пассажиров, то есть во время следования поезда. А что белорусская сторона?! Александр Лукашенко подписал указ, чтобы к 1 января 2015 года пограничный контроль для пассажиров поезда Минск—Вильнюс был организован на вокзале белорусской столицы. А это означает, что опять-таки увеличится время на дорогу в Вильнюс — на вокзал нужно будет прибывать задолго до отправления поезда.

Но кто думает о белорусах?

СІТУАЦЫЯ

# Развод

## «Уралкалий» паведаміў аб спыненні паставак праз «Беларускую калійную кампанію».

Эксперты прагназуюць, што гэта рашэнне прывядзе да падзення коштаў на калійныя ўгнаенні на сусветным рынку на 25—30%. Гэта значыць, што па галоўнай пазіцыі беларускага экспарту, якая забяспечвала паступленне валюты ў бюджэт, нанесены яшчэ адзін моцны ўдар.

Навіну, якая многіх у Беларусі прымусіла схапіцца за галаву, паведаміў гендырэктар "Уралкалия" Уладзіслаў Баўмгертнер. Па яго словах, рашэнне аб разрыве адносін з БКК было прынята ў сувязі з парушэннем беларускім бокам дамоўленасцяў аб пастаўках калійных угнаенняў на знешнія рынкі праз адзіную таваразправодную сетку. Кіраўнік "Уралкалия" сцвярджае, што прыняцце ўказа прэзідэнта Беларусі ад 22 снежня 2012 г. №566 аб адмене выключнага права Беларускай калійнай кампаніі на экспарт беларускага калію дазволіла "Беларуськалію" пастаўляць угнаенні на знешнія рынкі ў абход адзінага трэйдара. *"Мы неаднаразова звярталі ўвагу нашых беларускіх партнёраў на непрымальнасць падобных дзеянняў, у выніку якіх былі разбураны асновы нашага шматгадовага плённага супрацоўніцтва",* — заявіў гендырэктар "Уралкалия".

Аднак нельга не ўзгадаць, што час ад часу такія самыя прэтэнзіі да "Уралкалия" прад'яўляў беларускі бок. Паводле ацэнак генеральнага дырэктара "Беларуськалія" Валерыя Кірыенкі, "Уралкалий" пастаўляе праз таваразправодную сетку БКК толькі каля 20% хлорыстага калію, а астатнія 80% рэалізуе праз сваю фірму "Уралкалий Трейдинг".

Але ў любым выпадку рашэнне расіян нават для экспертаў стала поўнай нечаканасцю, нічога добрага ад яго яны не чакаюць. Справа ў тым, што рынак калійных угнаенняў з'яўляецца адным з найбольш кансалідаваных у свеце. Па гэтай прычыне распад гандлёвых альянсаў (у дадзеным выпадку БКК) нязменна прыводзіць да абвальвання коштаў і ў цэлым да змены ўсёй структуры рынку. Пакуль ўмовы на рынку дыктуюць прадаўцы. Але ў выпадку юрыдычна афармленага "разводу" "Уралкалия" з БКК (пакуль кампанія заявіла толькі аб спыненні паставак, але не аб выхадзе са складу акцыянераў БКК) сусветны рынак стане рынкам пакупнікоў, якія працягнуць збіваць кошты. Дарэчы, ужо ў гэтым годзе попыт на мінеральныя ўгнаенні (і, адпаведна, кошты на іх) значна скараціўся. І ў беларусі гэта адчулі: "Беларуськалій", напрыклад, больш не займае першае месца сярод прадпрыемстваў-донараў дзяржбюджэту.




Паводле ацэнак аналітыка расійскага "Альфа-Банка" Уладзіміра Дорагава, якога цытуе агенцтва "Бізнес-Навіны", у сувязі з новымі раскладамі цана на сусветным рынку можа знізіцца мінімум на 25—30% — з 400 долараў да 300 і ніжэй за тону ўгнаенняў. Аналагічны прагноз зрабіў і сам "Уралкалий".

Аналітык "Альфа-Банка" перакананы, што "Уралкалий" не зможа кампенсаваць падзенне коштаў павелічэннем аб'ёмаў вытворчасці. Пры гэтым ён нават не дапускае магчымасці аднаўлення супрацоўніцтва паміж "Уралкалием" і БКК. *"Не думаю, што заява "Уралкалия" можна разглядаць як шантаж з мэтай перагляду умоў супрацоўніцтва ў рамках БКК,* — заявіў эксперт. — *Думаю, сваё рашэнне расійская кампанія пераглядаць не мае намеру".*

Дык чаму ж кампанія пайшла на разрыў з БКК, абрынуўшы рынак?

Адказу на гэтае пытанне пакуль няма — толькі здагадкі. Не сакрэт, што расіяне былі зацікаўлены ў набыцці кантрольнага пакета "Беларуськалія". Беларускі бок гэту зацікаўленасць усяляк падаграваў, але потым заламіў такую цану, што здзелка стала проста немагчымай.

Акрамя таго, нельга не ўзгадаць, што нядаўна адбылася змена кіраўніцтва "Беларускай калійнай кампаніі". Пасаду генеральнага дырэктара Аляксандр Лукашэнка даверыў 42-гадовай Алене Кудравец, якая раней працавала намеснікам генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях і лагістыцы. Не выключана, што расійскія акцыянеры бачылі на гэтай пасадзе больш вядомага і аўтарытэтнага чалавека.

### Да ведама

БКК займае 42—43% усяго сусветнага рынку калійных угнаенняў. У выпадку выхаду з складу акцыянераў "Уралкалия" доля БКК (калі яна захавае статус трэйдара "Беларуськалія") скароціцца мінімум у два разы, адпаведна, пазіцыі кампаніі на сусветным рынку прыкметна аслабнуць. Пазіцыі "Беларуськалія" на рынку яшчэ больш пагоршацца ў выпадку поўнай ліквідацыі БКК.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

### Леў МАРГОЛІН, эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

— Кантралюючы каля 40 працэнтаў рынку, "Беларуськалій" і "Уралкалий" маглі праводзіць узгодненую цэнавую палітыку і ўплываць на пазіцыю іншых буйных экспарцёраў калію. Але, як вядома, шлюб можа быць па каханні ці па разліку. Зараз атрымліваецца: кахання не засталося, ды і разлік канчаецца, бакі абвінавачваюць адзін аднаго. Нібы ў дрэннай сям'і: і ў мужа каханка, і ў жонкі з'явілася сувязь на баку. І, як у любым сямейным скандале, вінаватага тут шукаць вельмі складана. Але, хутчэй за ўсё, вінаватыя абодва бакі. Мабыць, сітуацыя склалася так, што "Беларуськалій", які з'яўляецца дзяржаўнай кампаніяй, мае інтарэсы некалькі іншыя, чым "Уралкалий" — цалкам прыватная кампанія. А калі няма супадзення інтарэсаў, дык саюз рана ці позна асуджаны на развал. Гэта мы зараз і назіраем. Якія наступствы можа мець гэты "развод"? Натуральна, гэта не ўмацоўвае пазіцыю абодвух бакоў. Цяпер дыктаваць свае ўмовы на рынку будзе вельмі складана, бо чым больш пастаўшчыкоў, тым лягчэй лавіраваць пакупнікам. Калі раней і "Беларуськалій", і "Уралкалий" гатовы былі пайсці на часовае скарачэнне аб'ёмаў, каб захаваць цану, то цяпер, магчыма, пачнецца прыхаваная барацьба паміж імі за аб'ёмы. Кожны будзе імкнуцца рэалізаваць максімальную колькасць калійных угнаенняў нават шляхам паніжэння кошту. Улічваючы, што "Беларуськалій" — галоўны пастаўшчык валюты ў краіну (разам з нафтаперапрацоўчымі прадпрыемствамі), то гэта натуральным чынам прывядзе да скарачэння паступлення гэтай самай валюты. Не думаю, што гэта абернецца фінансавай катастрофай для салігорцаў, паколькі асаблівасць здабываючых прадпрыемстваў — у даволі значнай долі прыбытку і невялікіх выдатках (калі не браць капітальныя выдаткі на засваенне новых радовішчаў). Іншая справа, што прыйдзецца адкарэктаваць у бок скарачэння некаторыя інвестыцыйныя праграмы. На іх грошай можа не хапіць. Валюта патрэбна "Беларуськалію", але яна патрэбна і Міністэрству фінансаў. Таму праблемы з інвестыцыямі будуць адназначна.

ВЕРСІІ

### Навошта гэта Керымаву?

Усе эксперты, каментуючы сітуацыю з "разводам" "Уралкалия" і "Беларуськалія", акцэнтуюць увагу на пройгрышах. Але ж нейкую выгаду расійскі бок у такім кроку бачыў. Якую?

Над гэтым ламаюць галаву не толькі беларускія і расійскія, але і сусветныя эксперты, якія параўноўваюць апошнія падзеі на калійным рынку з выхадам Саудаўскай Аравіі з АПЕК.

Дык у якім выпадку Сулейману Керымаву, гаспадару "Уралкалия", было выгадна абваліць сусветны рынак, збіўшы кошт не толькі сваёй кампаніі, але і кампаній-канкурэнтаў?

Адказ просты: Сулейман Керымаў пры падтрымцы расійскіх дзяржбанкаў зараз можа пачаць скупку акцый калійных кампаній, якія рэзка патаннелі. Гэта адкрые яму шлях да сусветнай манаполіі.

Як менш амбіцыйны варыянт — перакрыўшы Беларусі ледзь не адзіны гарантаваны валютны паток, Керымаў проста прымусіць нашу краіну прадаць "Беларуськалій" не за 32 мільярды (з пункту гледжання эканамістаў, пасля апошніх падзей нават агучваць такую суму некарэктна), а значна танней.

Карацей, галоўныя падзеі, як лічаць многія, яшчэ наперадзе.

### Пуцін узнагародзіў мітрапаліта Філарэта

Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт узнагароджаны ордэнам Аляксандра Неўскага.

Узнагароду мітрапаліту ад імя прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна 31 ліпеня ўручыў пасол РФ у Беларусі Аляксандр Сурыкаў падчас святочнай трапезы, што завяршала ўрачыстасці з нагоды 1025-годдзя Хрышчэння Русі ў Мінску.

ЖНІВО

### Пакуль не тыя ўраджаі

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання абнародавала апошнія звесткі аб ходзе сельскагаспадарчых работ.

На 1 жніўня па краіне было намалочана амаль 2 мільёны 700 тысяч тон збожжа. Ураджайнасць — 32,7 цэнтнера з гектара. Дарэчы, па ўраджайнасці толькі Магілёўская вобласць сёлета дасягнула мінулагодніх паказчыкаў.

СЛЫШАЛИ?

### Подготовка к отопительному сезону началась с роста тарифов

С 1 августа дорожает тепловая и электрическая энергия. Соответствующее решение принял Совет министров.

Тарифы для населения на тепловую энергию для нужд отопления и горячего водоснабжения увеличатся на 9% до 68.833,5 рубля за гигакалорию.

Что касается изменений тарифов на электрическую энергию, то они выглядят следующим образом: одноставочный тариф на электроэнергию в жилых домах (квартирах), оборудованных в установленном порядке электрическими плитами, — 428,5 рубля за 1 кВт·ч (ранее — 375,9 рубля), дифференцированный тариф в таких жилых помещениях в период минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) — 300 рублей за 1 кВт·ч (было 263,1 рубля), а в период максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) — 857 рублей (было 751,8).

В остальных случаях одноставочный тариф составит 504,3 рубля за 1 кВт·ч (ранее — 442,4 рубля).

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Сутяжничество

Я таких называю "люди трудной судьбы".

Они судятся годами, в казенные дома ходят как к заутрене, пишут жалобы и заявления во все существующие "генеральные" инстанции, заставляя по пятому-десятому кругу рассматривать их дела.

Давно пора остановиться, принять проигрыш как урок судьбы, смириться, уступить в иной малости, чтобы сохранить большее. Но гравитация обиды так могущественна, что тянет вниз, разрушая их собственную судьбу. Жизнь с ее простыми радостями — встречами, покупками, погодой, ценами, ТВ-новостями, вареньем на зиму, сарафанами на лето — побоку. Все идет в топку борьбы за справедливость. Как они ее сами понимают, естественно. Других резонов, мнений, судебных определений, выводов быть не может. Если "другие" — значит, произвол, клевета, мошенничество. Их письма в газету пахнут залежалым тряпьем. Они обычно серо-желтого цвета, состарились от времени, потому что давным-давно написаны под копирку с экономным расчетом на будущих адресатов.

Валентина Петровна развелась с мужем весной 2008 года, получила свидетельство о расторжении брака. А через три месяца бывший муж умер. Не повезло... Цинично? Нет, реалистично. Это был тяжелейший удар для бывшей жены — собственность мужа ушла в руки его родственников. Хотя, возможно, нечто человеческое тоже постучалось в ее сердце: скорбь, горесть утраты. Впрочем, не уверена. А то, что женщина затеяла череду судебных тяжб за наследство (квартиру и машину "Жигули"), — это факт.

С чем же Валентина Петровна пришла в суд? С утверждением, что развод был фиктивный, мнимая сделка. Они, мол, со своим бывшим продолжали вести совместное хозяйство. Что, конечно, вполне реально, люди зачастую устраивают цирк из своей личной жизни. А потом кусают себе локти — судьба взяла и переиграла их, как в данном скорбном случае. И как теперь с ней тягаться? Не крикнешь: "Не считается! Давай на новенького!"

Но Валентина Петровна решила попробовать "на новенького". Она стала приводить в суд свидетелей, чтобы те подтвердили, что они с бывшим мужем и после развода жили душа в душу: с общих сковородок ели, на общей площади существовали. Поэтому штампы в паспорте о расторжении брака не считаются настоящими. По ее горячему сердечному мнению. А если суд не согласен, то "люди в черных мантиях меня обворовали". Однозначно. В книге замечаний и предложений районного суда накануне 8 марта она сделала высокопарную и многозначительную с ее точки зрения запись, адресованную судье: "Живи и знай, что жизнь прекрасна, и сколько ни было б в ней зла, не обижай людей напрасно. Присягу Богу ты дала".

Ладно, зайдем с другой стороны. Кто знает, что там было между мужчиной и женщиной на самом деле? Любили, да не поженились... Любили, да официально разошлись... Мы часто создаем себе препятствия, словно хотим проверить собственные чувства. А потом, глядишь, чувств и нет. Проверять уже нечего. И кто докажет, что было иначе? Но судебная система оперирует лишь фактом. А он налицо: второй раз бывший супруг Валентины Петровны в загс с ней не ходил. А завещание, составленное нотариусом при свидетелях, оставил: все имущество — племянникам.

Выходит, вернуть наследство (или его часть) у Валентины Петровны нет никаких законных оснований. Прикусила бы губу, выплакалась бы от злости на себя и судьбу свою неудачную — раз она ее такой считает, естественно. И жила бы дальше в относительном благополучии. Счастье ведь, оно что — закон, формула физическая? Нет. Человек считает себя счастливым — таковым и является. Считает неудачником — мается, комплексует, злится и чахнет. Так и Валентине Петровне стоило бы подумать на холодную голову: на что тратит она свои уже малые силы? Жизнь с любимым (как она утверждает) человеком прожита, детей нет, а в квартире она имеет право оставаться по завещанию до своей естественной кончины. "Жигули" ушли к племяннику? Да сколько стоит это советское железо на колесах? Пусть! Собственный покой и достоинство дороже. Но горячая головешка жадности, злости не дает человеку вынырнуть из океана обиды. И вот уже пять лет (!) 77-летняя (!) дама пишет в газеты и прокуратуры всех уровней, пытаясь вернуть вчерашний день. Не имея будущего. Потому что настоящее ее убого, скудно, чахоточно.

И жизнь проходит. Но обида — нет, нет! Она, подобно углям, тлеет внутри жалобщика день за днем, неделю за неделей, год за годом... И съедает человека изнутри. И ходит он внешне будто такой, как и прежде, а на самом деле — головешка головешкой. Дух-то выгорел.

У СУСЕДЗЯЎ

### «Беларускае пытанне» пасварыла польскіх дэпутатаў

У Польскім сейме створана другая парламенцкая група па супрацоўніцтве з Беларуссю. Узначаліў яе дэпутат "Саюза польскіх левых сіл" (SLD), прадстаўнік беларускай меншасці ў Польшчы **Яўген Чыквін**.

Паводле інфармацыі спадара Чыквіна, першая сустрэча ініцыятыўнай групы ўжо адбылася. У яе склад увайшлі 12 дэпутатаў з "Саюза польскіх левых сіл", "Грамадзянскай платформы" і "Польскай сялянскай партыі". У сустрэчы браў удзел амбасадар Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак, які абяцаў дапамогу ў пошуку кантактаў і атрыманні інфармацыі.

— Я з'яўляюся беларусам і ўжо шмат гадоў стараюся рабіць усё, каб развіваць найперш эканамічныя стасункі, — патлумачыў Яўген ЧЫКВІН "Польскаму радыё". — Я і многія дэпутаты такую патрэбу бачым. Мы памятаем, што ў мінулым годзе беларусы ў Падляшскім ваяводстве купілі тавараў больш як на мільярд злотых. І гэта для нас важны эканамічны чыннік... Па маім перакананні, калі мы можам нешта зрабіць (а я не пераацэньваю магчымасцяў дэпутатаў) для эканамічнага супрацоўніцтва, у пытаннях памежнага супрацоўніцтва, перасячэння мяжы, абмену студэнтамі, культурніцкага супрацоўніцтва, праблем меншасцяў, то чаму гэтага не рабіць?

Пры гэтым Яўген Чыквін адзначае, што не падтрымлівае недэмакратычных захадаў беларускіх улад і не збіраецца гэта хваліць.

Свой пункт погляду на сітуацыю выклаў і дэпутат ад "Грамадзянскай платформы", старшыня існуючай з 2005 года групы па справах Беларусі **Роберт Тышкевіч.**

— Хачу адзначыць, што дадзеная парламенцкая група называе сябе "Група па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь", — патлумачыў спадар Тышкевіч. — Яны прагнуць супрацоўнічаць з афіцыйнымі ўладамі Беларусі. Гэта не ёсць добра, што ў польскім Сейме з'явілася "двухгалоссе" ў дачыненні да Беларусі. Польшча, Еўрапейскі Саюз, увесь дэмакратычны свет гавораць з Беларуссю адным голасам. Тым больш дзіўнай выглядае ініцыятыва спадара Чыквіна, які тую еднасць, што існавала ў польскім парламенце з 2005 года, разбівае з мэтай стварэння такой групы, якая не будзе звяртаць увагу на знішчэнне дэмакратыі, парушэнні правоў чалавека ў Беларусі і на ўсе тыя каштоўнасці, якія ёсць для нас вельмі важнымі. Яны будуць проста займацца лабіраваннем інтарэсаў рэжыму афіцыйнага Мінска.

Большасць дэпутатаў, якія ўвайшлі ў гэтую групу, зрабілі гэта з добрай верай. Сярод іх адзін дэпутат з клуба "Грамадзянскай платформы", якога я раней не ведаў як асобу, што цікавіцца беларускім пытаннем. На гэтым тыдні дэпутатам "Грамадзянскай платформы" былі разасланы рэкамендацыі з просьбай не ўваходзіць у гэтую групу. Думаю, што ён выйдзе з яе. Спадзяюся, што іншыя таксама зарыентуюцца, што гэтая ініцыятыва будзе служыць не польска-беларускаму супрацоўніцтву, а толькі палітычнай падтрымцы Аляксандра Лукашэнкі ў Польшчы. Веру, што гэтая ініцыятыва бясслаўна сыдзе ў гісторыю.

У той час, калі ў Беларусі людзі сядзяць у турмах, калі з Еўропы, з Еўрапарламента гучаць патрабаванні пра вызваленне палітвязняў, а таксама пра правядзенне дэмакратычных рэформаў у Беларусі, адкрыты заклік да афіцыйнага супрацоўніцтва з рэжымам у Мінску не адпавядае ні еўрапейскай, ні польскай лініі, ні звычайнай прыстойнасці.

**Алег СНОЎ.**

АБІТУРЫЕНТ-2013

### Самая папулярная спецыяльнасць — міжнароднае права

Кампанія па залічэнні ў беларускія ВНУ яшчэ ў самым разгары, але першыя вынікі ўжо ёсць.

Абсалютны рэкорд гэтага года трымае спецыяльнасць "міжнароднае права", якой навучаюць на факультэце міжнародных адносін БДУ. Для паступлення туды трэба было набраць рэкордныя 388 балаў. У выніку на конкурснай аснове на "Міжнароднае права" паступіў толькі адзін чалавек. Астатнія 14 прайшлі без экзаменаў.

Не адстаў ад БДУ і БДУІР. Імідж праграміста як адной з самых запатрабаваных і паспяховых прафесій зрабіў сваю справу: прахадны бал на спецыялізацыю "інфарматыка і тэхналогіі праграмавання" склаў 375 балаў — на 19 болей, чым у мінулым годзе. Пры гэтым і 375 балаў не гарантавалі паступлення, гэты бал лічыўся паўпрахадным.

КОМПЕТЕНТНО

## Сергей НИКОЛЮК: «Модернизация закончится перестройкой»

*Модернизация в Беларуси проваливается — не исключено, что власть будет вынуждена признать этот печальный факт в течение года. Однако пока существует российский фактор, модернизация по-европейски Беларуси не грозит.*

*Евросоюз не в состоянии предложить Минску больше, чем вливает в страну Москва.*

*В рамках проекта "Европейский диалог о модернизации для Беларуси" политолог **Сергей Николюк** рассуждает о перспективах модернизации.*

**— Модернизация — естественный процесс системы, в которой мы "процветаем"?**

— В 2006 году эта политическая система прошла свой пик. 1 января 2007 года Россия в два раза повысила цены на газ. На осознание новой реальности власть потратила почти год; за это время внешний долг Беларуси увеличился вдвое — с 6 миллиардов долларов до 12. С этого момента страна начала набирать долги.

Власть поняла, что российских ресурсов для дальнейшего повышения доходов населения, для стабилизации системы не хватает.

В 2008-м начинается политика либерализации. Формируется принципиально новая ситуация: к власти приходит осознание — нужно что-то менять. В систему вносится динамика, которую власть пытается свести к минимуму.

Потихоньку либерализация затрагивает политическую сферу, что мы увидели во время президентской кампании. В 2010-м в центре Минска развевались ненавистные режиму бело-красно-белые флаги, избирательная кампания проходила без особых ограничений. Но это изменения по форме, но не по содержанию.

На мой взгляд, вечером 19 декабря 2010-го силовики нанесли либерализации продуманный удар.

Экономические проблемы, вставшие перед Беларусью, оставляли силовой блок на вторых ролях. Чем дальше пойдет либерализация, тем больше силовиков отодвинут. Они блестяще решили корпоративную задачу: за семь с половиной минут свернули политику, которую власти начали реализовывать в 2008 году.

Однако новые экономические и политические проблемы никуда не делись. Поэтому...

**— ...модернизация?**

— Да, новая кампания — модернизация. "Советская Белоруссия" фиксирует двукратный рост употребления этого слова — сто шестьдесят статей в год с его упоминанием. Процесс пошел.

Лукашенко в новогоднем поздравлении назвал нынешний год переломным. Прямо сказал: иначе нам не выжить. Но при этом новомодная модернизация понимается чиновниками исключительно как техническое перевооружение государственных предприятий. Уже в силу этого она обречена.

В январе, когда было объявлено о сокращении госаппарата, президент изрек замечательную фразу: сегодня чиновник важнее человека в погонах. Поскольку главным субъектом является именно первый, но со своей задачей не справляющийся, его надо взять под жесткий контроль. Конечно, под контроль силовиков.

Министры, губернаторы, вся последующая вертикаль поставлены перед необходимостью привлекать инвестора. Что из этого получается — мы видим.

Недавно литовская компания без участия государства запустила крупное деревообрабатывающее предприятие — на его создание ушел год. Теперь вспомним государственную программу по деревообработке на 2007 — 2009 годы; в прошлом году Лукашенко устроил нагоняй по этому поводу и утвердил новый ориентир — 7 ноября 2013 года.

На конец 2013-го или к следующему посланию (обычно оно происходит в апреле) власть должна осознать, что модернизация в ее понимании закончилась провалом.

Существует некая логика развития. Первый этап — осознание отставания, второй — "надо что-то делать", причем желательно это "что-то" ограничить чисто техническим уровнем. Обозначенный этап разворачивается на наших глазах. Ну, а третий должен означать, что предпринятых локальных мер недостаточно, надо выходить в сферу социальную, политическую — то, что отчасти пытались делать в короткий период либерализации.

Эта логика должна закончиться перестройкой, что в истории системы происходило неоднократно.

**— Значит, и нынешней модернизации суждено завершиться перестройкой?**

— Раскручивание и реализация вышеобозначенной логики приведет к краху белорусской системы. Россия, пока она существует в нынешнем виде, пока она владеет определенными ресурсами, этого краха не допустит. Мы уже наблюдали это в 2011 году. Все шло к краху. Но приехал Владимир Владимирович, достал из кармана российских налогоплательщиков несколько миллиардов долларов и решил проблему.

Чтобы поддерживать в Беларуси стабильность, нужен не просто высокий уровень российских дотаций — требуется постоянно растущий их уровень. Но это консервирует ситуацию. Как сказал министр экономики, сама система не генерирует такого уровня прибыли, который бы позволял выплачивать нынешние зарплаты. А речь ведь идет об их росте! Что в общем-то и понятно: как иначе остановить отток кадров? И эта задача на сегодня — номер один для власти.

**— А насколько реально белорусское общество готово к иной схеме модернизации — такой, какой она видится участникам Европейского диалога?**

— Помечтаем: пусть нынешняя власть плоха, но помог господь Бог — пришли к власти новые люди. А имеет ли общество ресурс для модернизации "по-европейски?" Здесь возникает больше вопросов, чем ответов. Серьезных исследований просто нет. В России таковые проводятся на академическом уровне, но субъекта модернизации не находят.

Что такое 1994 год для Беларуси? Большинство тогда высказалось против подобной модернизации — иначе говоря, против новой жизни, когда человек начинает отвечать сам за себя, когда роль государства резко сокращается. Не случайно тему иждивенчества не первый год озвучивает Лукашенко. Электоральное большинство, на которое он опирается, иждивенческое по сути, попросту спивается.

**— Что же получается: модернизация по-лукашенковски обречена на провал, но сбавлять обороты нельзя, иначе машина остановится. Каков тогда новый поворот?**

— Сама логика развития должна заканчиваться перестройкой. В Беларуси нельзя исключать элементы дежавю 2011 года. Но за счет восточного фактора эта логическая цепочка в среднесрочной перспективе все время будет прерываться.

**— Выходит, пока существует российский сценарий, европейский диалог о модернизации будет бесперспективным?**

— Евросоюз не в состоянии предложить помощь, сопоставимую с вливаниями России, поэтому белорусская политическая элита давно определилась с геополитическим выбором. Просто открыто это не афишировалось. Но после вхождения в российские интеграционные проекты "тайное" стало явным.

**Семен КУТКОВЕЦ.**

РЭЗАНАНС

*26 ліпеня на Радыё "Рацыя" прагучала інтэрв'ю экс-старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання С.Шушкевіча. У гэты ж дзень яно было прадубліравана на сайце www.nv-online.info. Станіслаў Станіслававіч згадваў, як 23 гады таму рыхтавалася і прымалася Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.*

*Успаміны С.Шушкевіча выклікалі абурэнне з боку Зянона Пазьняка, які, будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета, узначальваў фракцыю дэпутатаў Апазіцыі БНФ.*

*Зыходзячы з плюралістычнай пазіцыі "Народнай Волі", друкуем з невялічкім скарачэннем альтэрнатыўны ліст Зянона Станіслававіча Пазьняка.*

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ЛІСТ

# Супыніцеся, спадар Шушкевіч!

Гадоў праз 10—12 пасля прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР Станіслаў Шушкевіч пачаў рэгулярна хіхікаць наконт дэманстратыўнага выхаду дэпутатаў Апазіцыі БНФ з залы парламента перад галасаваннем за Дэкларацыю, якую яны практычна самі напісалі і абаранілі на сесіі. Праўда, тады (*падчас прыняцця гэтага гістарычнага акта.* — **Рэд.**) яму (які трымаўся разам з камуністамі) было не смешна. Магчыма, ён гэтак жа, як потым некаторыя наменклатуршчыкі, інтуітыўна зразумеў псіхалагічную моц нечаканага ходу з боку БНФ, які вырашыў вынік галасавання (хаця наўрад ці ён тое зразумеў), але цяпер, калі падрасло новае (лукашысцкае) пакаленне, якое нічога не ведае, спадар Шушкевіч спявае салаўём, як гогалеўскі Хлестакоў пра сорак тысяч кур'ераў: гэта, маўляў, аказваецца, ён усё зрабіў, усё напісаў, усіх здзівіў, а БНФ — гэта "жарт", гэта "кур'ёз" і г.д.



Вось цытата, словы С.Шушкевіча: "...былі створаны дзве камісіі, якія дапрацоўвалі прапанову Дэкларацыі. Я ачольваў камісію, якая дапрацоўвала палітычны бок. Другая камісія займалася агульнымі пытаннямі. У выніку мы распрацавалі фактычна новую Дэкларацыю. Яна складалася з 12 артыкулаў. І менавіта гэтую Дэкларацыю прыняў Вярхоўны Савет".

Дык вось. Не былі створаны "дзве камісіі" і не "ачольваў" С.Шушкевіч ніякай камісіі. І не займаўся ён ўвогуле Дэкларацыяй. Для яго Незалежнасць Беларусі называлася "гэта жарт". Была адна камісія, якую ўзначальваў Леанід Козік, які не ведаў што рабіць, бо ніхто з наменклатурных членаў камісіі і ніхто з камуністаў не хацеў працаваць над Дэкларацыяй. Справа ішла да правалу працы камісіі, і тады Л.Козік у роспачы звярнуўся за дапамогай ў Апазіцыю БНФ (тады яшчэ ў яе была такая назва — Дэпутацкая група БНФ). Мы прынялі рашэнне ўсім пайсці ў камісію Козіка і распрацаваць неабходны для Незалежнасці тэкст. Гэта было зроблена.

На сесіі 26 ліпеня 1990 года старшыня камісіі Л.Козік, які прадстаўляў праект, заявіў, што тэкст падрыхтаваны камісіяй з удзелам Дэпутацкай групы БНФ, а таму ён прапануе, каб праект Дэкларацыі акрамя старшыні Камісіі прадстаўляў на сесіі таксама кіраўнік Дэпутацкай групы БНФ. Прапанова была прынята Вярхоўным Саветам, і я, як кіраўнік Дэпутацкай групы Фронту, гэты тэкст Праекта Дэкларацыі прадстаўляў паперамення разам з Л.Козікам.

Усё гэта, пра што я тут вышэй пішу, адлюстравана ў стэнаграме сесіі. І хопіць хлусіць спадару Шушкевічу. Надакучыла гэта слухаць. Ён даў дарогу Лукашэнку з-за сваёй бесталковасці і цяпер не сунімаецца супроць Народнага Фронту (які вывеў яго ў палітыку, дарэчы).

Яшчэ крыху прадоўжу пра Дэкларацыю. У канцы дня (26 ліпеня), калі было ўжо прынята 10 артыкулаў з 12, сярод часткі бетоннай наменклатуры пачалася паніка. Мой сусед па сектары ў зале, камуніст Селівончык (намеснік гендырэктара МАЗа), крычаў пра наменклатуру: "Да они с ума сошли! Товарищи коммунисты, что это делается — Пазьняк повел за собой Верховный Совет, а коммунисты не знают, за что голосуют!"

Вось гэты агрэсіўны настрой быў вельмі небяспечны. Дэпутаты-наменклатуршчыкі з абласцей жылі ў гасцініцах, і я быў больш чым упэўнены, што за ноч, сабраўшыся за бутэлькай, ім могуць "уставіць мазгі" і ўсё перайграць, прымусіць рэвізаваць прынятыя палажэнні (так было не раз). Раніца наступнага дня магла стацца для нас фатальнай. Дэкларацыю трэба было прыняць за адзін дзень (26-га), але тое не ўдалося. Таму назаўтра, паназіраўшы за настроем камуністаў і не чакаючы пачатку пасяджэння, я прапанаваў дэпутатам Фронту радыкальны псіхалагічны ход: разлаваць камуністаў і ў знак нязгоды з палажэннем аб захаванні СССР (якое мы прайгравалі пры любым раскладзе) пакінуць залу. Дэкларацыю яны прымуць на хвалі абурэння ў піку нам, забыўшыся пра рэвізію. Бальшыня з іх найчасцей галасавала "ад адваротнага" (гэта значыць насуперак БНФ). Увогуле, дамагчыся нечага ў парламенце, дзе камуністаў было амаль 90 працэнтаў, можна было толькі іхнымі галасамі, таму наша тактыка была нестандартнай і, што самае важнае, не зразумелай для камуністаў.

Амаль палова нашых дэпутатаў сумнявалася і баялася ісці на рызыку (надта ж вялікую цану маглі заплаціць). І тут я вельмі ўдзячны ім, што абавязак палітычнай дысцыпліны дазволіў нам правесці гэтую акцыю бездакорна.

Што адбывалася ў зале пасля нашага выхаду, падрабязна апісаў у сваёй кнізе і артыкулах Сяргей Навумчык, які па дамоўленасці застаўся ў зале разам з яшчэ некалькімі дэпутатамі БНФ.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

## З інтэрв'ю Станіслава Шушкевіча

— Дэкларацыя была прынята, таму што ЦК КПБ ужо зразумеў, што трэба нешта рабіць. І перад гэтым шмат разоў з дапамогай камуністаў, якія былі ў парламенце, адкідваліся прапановы БНФ, і ніводная з прапаноў пра тое, каб прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце, не разглядалася. Але на пачатку ліпеня прыйшоў сакратар ЦК КПБ Сакалоў да Дземянцея, і Дземянцей прапанаваў Рэзалюцыю аб незалежнасці. Яна складалася з 38 артыкулаў, і гэта была хутчэй "Рэзалюцыя залежнасці", таму што гэта была рабалепская дэкларацыя, ідалапаклонна скіраваная ў бок Расіі.

У рэшце рэшт былі створаны дзве камісіі, якія дапрацоўвалі прапанову Дэкларацыі. Я ачольваў камісію, якая дапрацоўвала палітычны бок. Другая камісія займалася агульнымі пытаннямі. У выніку мы распрацавалі фактычна новую Дэкларацыю. Яна складалася з 12 артыкулаў. І менавіту гэтую Дэкларацыю прыняў Вярхоўны Савет.

Пры прыняцці быў пэўны кур'ёз. Зянон Станіслававіч Пазьняк вельмі хацеў, каб яна была рашучай і каб там не згадвалася тое, што мы будзем працаваць над новай Саюзнай дамовай. Гэта практычна немагчыма было не ўзгадаць. Амаль усе прадстаўнікі БНФ, якія ўваходзілі ў фракцыю, выйшлі ў час галасавання за гэтую рэзалюцыю. А цяпер яны гавораць, што так зрабілі, каб за яе ўсе прагаласавалі. Гэта, прабачце, жарт. У выніку Дэкларацыя была прынята.

ПРАБЛЕМА!

# Аврал на почте

Я являюсь подписчиком газеты "Народная Воля" и обслуживаюсь почтовым отделением №36, но периодически газету вообще не приносят, и я хожу за ней сам, или ее приносят во второй половине дня. На мои претензии и жалобы, даже письменные, никакой реакции. Почтальон, которая обслуживает наш дом, заявила, что не успевает. В отделе доставки мне объясняют, что почтальонов не хватает, что им мало платят и поэтому некому разносить почту. Приглашают на работу меня.

В этом же почтовом отделении получают пенсии многие пенсионеры, там же оплачивают коммунальные услуги. На это так называемое "обслуживание" приходится тратить 1,5—2 часа. Люди жалуются, пишут в Книгу замечаний и предложений, но ничего не меняется, по крайней мере последние два года. Заведующая отвечает, что некому работать.

На мое письменное заявление о плохом обслуживании нет ответа до сих пор.

**С уважением —**

**Аркадий БОНДАРИН.**

*Минск.*

БОЛЬ

# Выціскаюць з беларусаў апошнія кроплі нацыянальнага

Дзякуй табе, "Народная Воля", што шмат увагі аддаеш роднай мове, выступленням у яе абарону. Друкуеш артыкулы вядомых і простых людзей, у якіх ідзе гаворка аб значэнні беларускага слова ў жыцці, існаванні народа і самой дзяржавы. Нядаўна быў надрукаваны зварот ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" да грамадзян Беларусі.

Гэта, канешне, добра. Але, лічу, аднымі зваротамі ды заклікамі ў нашым сённяшнім становішчы выратаваць беларускую мову, спыніць яе знішчэнне немагчыма. Многія людзі адвучыліся думаць самастойна, ім зручней не разважаць, а выконваць слепа загады зверху. А хіба так можна нармальнаму чалавеку — не бачыць нічога страшнага, калі на вачах знікае наша мова пры ледзь не агульнай абыякавасці да яе лёсу, страце нацыянальнага пачуцця, уласцівага ўсім народам Зямлі? Мы — выключэнне, і пачварнае выключэнне, з агульначалавечай гісторыі. Бо аддаваць на згубу сваё запаветнае — значыць губляць сваю душу. Нагадаю, што пісаў роўна 100 год таму наш незабыўны Максім Багдановіч, звяртаючыся да народа: "І душу тваю абакралі, — у ёй нават мовы няма".

І сёння, ужо ў XXI стагоддзі, рэчаіснасць, на сорам і жаль, фактычна тая ж. Людзі, якія адарваліся ад каранёў сваёй зямлі, гатовы аддаць яе найхутчэй у абдымкі суседняй дзяржавы і не даражаць нашай незалежнасцю, здабытай у несупыннай барацьбе нашых мужных папярэднікаў. Яна, незалежнасць, для многіх кіраўнікоў толькі, падобна, форма, а не сутнасць. А мы маўчым, назіраючы — хто з болем, а хто і абыякава, як выціскаюць з беларусаў апошнія кроплі нацыянальнага. Але дабра з гэтага ўсё роўна не будзе. Безаблічнай, бяздумнай і бязмоўнай масай пракласці дарогу да годнай будучыні — сапраўднага працвітання і высокай духоўнасці, узвышэння Беларусі да ўзроўню самых цывілізаваных краін свету — не здолеем... Нам гэта трэба?

**Мікола КАРОТКІ,**
**пенсіянер.**

*Чэрвеньскі раён.*

КРЫК ДУШЫ

***Добры дзень вам, шаноўная рэдакцыя газеты "Народная Воля"!***

***Звяртаецца да вас пастаянная чытачка з горада Глыбокае Людміла Барэйка. Вялікі вам дзякуй за праўдзівую і змястоўную інфармацыю аб падзеях у нашай Беларусі. Нізкі паклон Святлане Калінкінай і заснавальніку і галоўнаму рэдактару Іосіфу Сярэдзічу за плённую працу.***

***Ваша газета карыстаецца вялікім попытам у Глыбокім. Я не раз бачыла, што набываюць яе ў шапіках нават супрацоўнікі райвыканкама. Калі крыху памарудзіш, дык і не набудзеш "Народную Волю". Гэта значыць, што грамадзяне Беларусі жадаюць праўдзівых навін, і ваша газета гэтаму спрыяе. Але я ніколі не думала, што самой давядзецца звяртацца па дапамогу.***

***Хутка ўжо будзе пяць год, як я не магу дабіцца ў нашай краіне справядлівасці, законнасці і спагнаць з вінаватых маральны і матэрыяльны ўрон. Перажыўшы вялікі нервовы стрэс, я здабыла хваробу сэрца і часткова згубіла зрок. Прашу вас апублікаваць мой зварот да чыноўнікаў і папрасіць праваабаронцаў пракаментаваць маю сітуацыю.***

***Зварот я напісала на рускай мове, бо яна, на мой погляд, больш зразумелая для нашага чынавенства.***

# По замкнутому кругу лжи и самоуправства

*Президенту Республики Беларусь* ***Лукашенко Александру Григорьевичу***

*Генеральному прокурору Республики Беларусь* ***Конюку Александру Владимировичу***

*В Президиум Высшего Хозяйственного Суда Республики Беларусь*

*Председателю Государственного комитета по имуществу* ***Кузнецову Георгию Ивановичу***

Я, Борейко Людмила Михайловна, вынуждена обратиться к вам для установления законности и национальной безопасности, так как другие меры в Беларуси исчерпаны.

Я являюсь индивидуальным предпринимателем и торгую на рынке "Верас" в г.Глубокое Витебской области с конца 1996 года. В 2008 году директором рынка стал Николай Петрович Шнитко. Он стал требовать от предпринимателей, чьи места были в начале рынка, перейти в середину рынка. Свое решение он мотивировал тем, что эти торговые места переходят в резерв рынка, под будущие торговые строения.

Поскольку я тоже входила в число этих предпринимателей, я организовала встречу предпринимателей с директором рынка, где указала ему на нарушение правил торговли на рынках.

Вскоре после этого Николай Шнитко предложил мне торговое место для строительства торгового павильона. На схеме рынка оно было обозначено как торговое место №1 и располагалось возле входа на рынок. Я написала заявление на выделение мне этой торговой площади, которое директор мне подписал. Мы заключили договор о том, что ОДО фирма "Верас" выделила мне место под строительство торгового павильона.

Однако когда я попросила выдать мне разрешение на строительство, Николай Шнитко ответил, что у него есть проектно-сметная документация на это строительство, фирма "Верас" является владельцем земли, и после того, как павильон будет построен, мы его оформим документально. Он также пригрозил, что если я не буду строить, место будет передано другим, а желающих будет более чем достаточно.

Выбора у меня не было, и я начала строительство. Происходило это в октябре 2008 года. Я наняла людей для копания траншеи под фундамент. Шнитко в это время помогал мне советами, в частности, он сказал, что при строительстве из блоков копать нужно на глубину не менее 120 см, чтобы не промерзали блоки.

Через две недели я наняла людей, которые строили здание из блоков, рассчиталась с ними, заплатила за аренду бетономешалки, в ноябре заплатила 232 тысячи белорусских рублей за аренду торгового места... Полтора месяца я не работала, так как занималась этой стройкой.

21 ноября 2008 года на мой павильон была поставлена временная крыша, чтобы защитить здание от разрушения. И в этот же день работник глубокского отдела архитектуры и строительства Оксана Шаурко выписала Николаю Шнитко предписание о запрете строительства.

Директор рынка на следующий же день выписал мне предписание о приостановке строительства до согласования его с глубокским отделом архитектуры. Тогда почему он не сказал мне об этом ранее, зная, что такое согласование необходимо? Я ведь была уверена, что у директора рынка есть все документы, дающие ему право давать разрешение на строительство предпринимателю.

Я вложила в строительство около трех с половиной тысяч долларов, эти деньги были накоплены нелегким трудом. Я одна воспитываю двоих детей, не имею никакой другой помощи. Рынок — единственный источник доходов, позволяющий содержать семью. Естественно, меня просто возмутил тот факт, что мое строительство признали незаконным. Ведь я строила павильон почти два месяца на глазах директора рынка, и если бы делала это самовольно, то администрация пресекла бы мое строительство в первые же дни, лишив торгового места. Но теперь никто даже не хочет слушать мои доводы.

Все это время я добросовестно уплачивала налоги, социальные платежи, арендную плату. А в итоге меня унизили, оскорбили как человека, разорили, лишили меня возможности зарабатывать на себя и свою семью. Более того, в ходе дальнейшего разбирательства выяснилось, что директор рынка получил предписание о сносе моего торгового объекта 21 ноября, а мне сообщил об этом только через месяц, 23 декабря.

Я считаю, что Николай Шнитко умышленно ввел меня в заблуждение. Руководимая им фирма и не собиралась придавать этой сделке юридическое значение. По моему мнению, так руководитель рынка отомстил мне за мою активную позицию в отстаивании своих прав и прав других предпринимателей.

20 мая 2009 года руководство рынка, не дожидаясь решения суда, снесло мой торговый павильон. По моему мнению, сделано это было умышленно, чтобы я не могла оценить причиненный мне ущерб и взыскать его с ответчика.

Налицо факт совершения уголовного преступления ОДО фирма "Верас" по ст.383 УК РБ "Самоуправство": самовольное осуществление своего действительного или предполагаемого права, совершенное с нарушением установленного правовым актом порядка и причинившее ущерб в крупном размере либо существенный вред правам и законным интересам граждан или государственным и общественным интересам.

Крупным ущербом в этой статье признается ущерб на сумму 100 и более базовых величин. На то время базовая величина составляла 25 тысяч рублей, я же предоставила чеки на сумму, превышающую 5 миллионов рублей. Однако этих чеков не хватило сотрудникам Глубокского РОВД для установления ущерба и квалификации совершенного преступления.

Глубокский РОВД указывает, что я согласовала строительство с администрацией рынка в лице директора Николая Шнитко. Я согласовала строительство с землепользователем и арендодателем как арендатор торгового места. Все это так. Но почему тогда я осталась без павильона и без денег? Кто виноват?

В пояснении Глубокскому РОВД и прокуратуре Николай Шнитко сообщил, что на момент дачи разрешения на данное строительство он не знал, чем отличается временное сооружение от капитального, так как по образованию он инженер-электрик, а не строитель. В суде же он утверждал, что вообще предоставил место под торговлю, а не под строительство.

У судей хозяйственных судов для установления фактических обстоятельств были постановления о произведенных расследованиях, знание Кодекса Республики Беларусь о земле, однако суды, по моему убеждению, руководствовались не законами и фактами, а внутренними убеждениями и лживыми свидетельствами ответчика. Мои обращения в вышестоящие инстанции сбрасывались в город Глубокое, возможно, для того, чтобы я потеряла веру в закон и справедливое разбирательство.

Приведу и такой факт. Глубокский райисполком проводил разбирательство по этому делу и 28 мая 2009 года рекомендовал ОДО фирма "Верас" возвести в соответствии со строительными нормами на территории рынка объект, равнозначный моему строению, и передать его мне. Согласитесь, это было бы справедливо. Однако этот документ руководство ОДО фирма "Верас" просто проигнорировало. Они даже не дали ответ в райисполком.

Так где и как в нашей стране мне найти справедливость?

Прошу вас сопоставить факты и провести объективное расследование, привлечь виновных к ответственности по закону. Я считаю, что, почувствовав себя безнаказанными, должностные лица в дальнейшем будут способны на более тяжкие преступления, на еще более серьезные нарушения закона. А это будет подрывать авторитет государственной власти в нашей стране.

**Л.М.БОРЕЙКО.**





ДА ЎВАГІ!

# Запрашаем у летнюю гістарычную школу

*У жніўні ў сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць летняя гістарычная школа* ***"Гісторыя на вакацыях"*** *пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук* ***Алега Трусава.***

На занятках можна будзе пабачыць і абмеркаваць гістарычныя фільмы, знятыя і паказаныя на "Белсаце", будзе праводзіцца гістарычная віктарына, пераможцы якой атрымаюць цікавыя прызы.

Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў беларускай мове.

У ліпені заняткі адбудуцца **5 жніўня** (панядзелак), **26 жніўня** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

# А чем они думали раньше?

Здравствуйте, дорогие сотрудники "Народной Воли"!

Благодарна вам за вашу позицию по всем вопросам. Включаюсь и я в обсуждение темы о нормах потребления воды. Не один раз поднималась на страницах газеты эта проблема.

Считаю, что Постановление Совмина №1300 от 28.09.2011 г. в части установления нормы потребления воды не продумано. Я имею в виду (поскольку сама живу в таком доме) те дома, где отсутствует система рециркуляции горячего водоснабжения. Этот момент вообще опущен. Чтобы получить так называемую горячую воду, нужно слить большое (до 20 литров) количество воды. Но стоит счетчик (кстати, с 2004 года), который все учитывает. И есть норма — 4,2 м3 на человека. С одной стороны, необходим слив, а с другой — норма. Еле доказали существование такой проблемы, и с 1 января 2009 года для таких домов установлена скидка в размере 10% в оплате горячей воды и ее канализации (постановление Совмина от 15.12.08 г. №1924).

Но почему 10%, а не 30—50%? Как вышли на цифру 10%? Ответа никто не дает, вот и получается, что на разные бытовые нужды (помывка и душ исключаются) расход из месяца в месяц 3 м3 "горячей воды" и 1 м3 холодной. Считаю, что для таких домов нормы не должно быть в принципе, или же наконец должна быть решена проблема слива воды. А вообще, в эту норму укладываются только те жители, у которых прописано несколько человек, но не все проживают в данной квартире.

А теперь о том, почему слово "горячая" у меня все время в кавычках. Потому что вода не отвечает норме по температуре (50°С). У нас она в пределах 35—40°С. Сколько же ее надо сливать с максимальным напором? Полотенцесушитель в ванной комнате греется только в отопительный сезон, и руководство города разводит руками: мол, таких домов много, а люди живут в еще худших условиях. В мае 2013 года у нас трижды отключали "горячее" водоснабжение, и в обозначенный срок так и не включали. Об очередном отключении известили только в местной газете. А кто ее не выписывает, опять сливали энное количество литров.

Хочется задать вопрос местным коммунальщикам: "На что рассчитывали, когда с нами заключали договор о подаче теплоносителей? Мы-то свои обязательства выполняем, а вы?"

**С уважением —**

**Н.В.ЦВЫРКО,**
**жительница г.Осиповичи.**

ПАЗІЦЫЯ

# ...Тады ж не было падзелу на праваслаўных і каталікоў

Чаго толькі мы не пачулі ў апошнія дні ў сувязі са святкаваннем 1025-годдзя Хрышчэння Русі! Прычым ніхто нават не патлумачыў, чаму так урачыста адзначаецца нават не вельмі круглая дата. Можа, мы 1020-годдзе так адзначалі? Ці 1015-годдзе? Дык што здарылася ў апошні час?

Але гэта толькі адзін блок пытанняў, якія ў мяне ўзніклі. Другі блок тычыцца няўдзелу каталіцкай царквы ў гэтых святкаваннях. Хрышчэнне ж адно на ўсіх. Тады не было ніякага падзелу на праваслаўных і каталікоў. Дык чаму Касцёл не запрасілі да ўдзелу ў свяце?

Нарэшце, я не разумею, чаму падчас гэтых святкаванняў увогуле не быў узгаданы горад Полацк — сапраўдная калыска хрысціянскай веры на нашай зямлі?

Дзіўна ўсё гэта. І гэта мякка кажучы.

**Таццяна АСТРЭЙКА.**

*Мінск.*

СКАНДАЛ

# «Добра быць “таленавітым і вядомым”, седзячы на дзяржпасадах і дзяржбюджэце...»

*Адразу некалькі вядомых літаратараў у апошні час пакінулі Саюз пісьменнікаў Беларусі. Кажуць, што надакучыла хамская крытыка. У адказ былыя паплечнікі выдаюць: “Саюз пазбавіўся ад баласту, а на пакрыўджаных ваду возяць...” У сутнасці канфлікту разбіралася “Народная Воля”.*

## «Сітуацыі» няма!

Сёння вядома, што заявы на сыход з Саюза пісьменнікаў Беларусі напісалі **Андрэй Федарэнка, Раіса Баравікова, Алена Масла** і **Валерый Гапееў**. У кожнага была свая нагода для развітання з арганізацыяй, але аб палітычных спрэчках размова не ідзе — крыўды і прэтэнзіі персанальныя.

Пісьменнік Андрэй Федарэнка, па ўласным прызнанні, сышоў з-за абыякавасці Саюза. Маўляў, год таму яго звольнілі з газеты “Літаратура і мастацтва”, і за ўвесь гэты час ніхто не пацікавіўся яго лёсам і не дапамог уладкавацца на новае месца.

*“Я сябе трохі ніякавата адчуваю,* — прызнаўся Федарэнка. — *Вось цягам года яны не давалі працы, але трэба аддаць належнае, што не чапалі ніякім бокам. Наогул, яны не рабілі нічога кепскага і нічога добрага. Ну, нібы памёр чалавек...*”

Аўтар дзіцячых казак Алена Масла аб тым, што яна напісала заяву на выхад з СПБ, заявіла на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках.



*“Я стамілася ад гэтага гвалту і тлуму”*, — толькі і сказала “Народнай Волі” аўтар, адмовіўшыся ад разгорнутых тлумачэнняў.

Пры гэтым падаецца, што кіраўніцтва СПБ сітуацыю з сыходам аўтараў успрыняла без драматызму.

*“Ніякай “сітуацыі” няма,* — распавёў “Народнай Волі” старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі **Мікалай Чаргінец**. — *У нас усё вольна: можна ўступаць, можна сыходзіць. Увогуле, гэтыя сыходы — не тэндэнцыя. Тут пытанні асабістага характару”.*

## Адкуль жа «гвалт і тлум»?

Аказалася, што многія літаратары сыходзілі пакрыўджанымі не столькі на Саюз, колькі на асабістых яго сяброў. Па словах Алены Масла, непрымальнымі для яе былі выказванні, змешчаныя на сайце litkritika.by. Сапраўды, стваральнік сайта і сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі **Аляксандр Новікаў** часцяком дазваляе сабе рэзкія каментары ў адрас калег. У адным са сваіх артыкулаў ён нават выказаў думку, што сыход з Саюза — правакацыя.

Літаратар Валерый Гапееў прызнаўся “Народнай Волі”, што ўколы Новікава і для яго сталі апошняй кропляй.

*“Асабіста для мяне гэты крок не быў імпульсіўным, выпадковым,* — выказаўся спадар Гапееў. — *Яшчэ ў мінулым годзе я напісаў ліст старшыні СПБ Мікалаю Чаргінцу аб тым, што на так званым партале litkritika.by абражаюць, ганьбяць беларускамоўных аўтараў, вядомых, выбітных пісьменнікаў і паэтаў. У лісце, у прыватнасці, я напісаў, што, калі сітуацыя на сайце не зменіцца, я пакідаю за сабой права выбару.*

*Чаму цяпер, чаму супала? Асабіста для мяне — звычайны працэс дасягнення крытычнай масы знявагі, якая вылівалася на гэтым “партале” на людзей, мной паважаных. Калі вядомая паэтка і празаік Раіса Баравікова, а таксама пісьменніца, якая шмат зрабіла для развіцця дзіцячай літаратуры, Алена Масла, фактычна называюцца “пацукамі”, то для мяне надышоў час “ікс”. Час задумацца над асабістай маральнай адказнасцю за знаходжанне ў такім Саюзе”.*

Пасля такога і кіраўніцтва СПБ звярнула ўвагу на “творчасць” Аляксандра Новікава. Укладальнік сайта атрымаў вусную вымову, хоць раней яго пачынанні ў Саюзе шчыра ўхвалялі.

“*На прэзідыуме мы абмяркоўвалі гэтую тэму*, — прызнаўся Мікалай Чаргінец. — *Але ў Саюза ёсць свой сайт, мы да litkritika.by дачынення не маем. Калі Новікаў ствараў свой сайт, я асабіста вітаў яго ініцыятыву. Мы спадзяваліся, што паўстане дадатковая пляцоўка для дыскусій. Зрэшты, спачатку так і было. Але ў апошні час ён дазволіў сабе некалькі абразлівых выпадаў у дачыненні да канкрэтных асоб. Мы заявілі, што не прымаем абраз у бок пісьменнікаў, у якіх бы саюзах яны ні былі”.*



Сам Аляксандр Новікаў ігнаруе шум, што ўзняўся вакол яго сайта. Праўда, вострых тэкстаў з-пад яго пяра больш не выходзіць. Пакуль.

*“Абвяшчаю, што да пачатку верасня мае артыкулы на партале з’яўляцца не будуць,* — пакінуў паведамленне на сваім сайце Новікаў. — *Я не збіраюся ўдзельнічаць у камедыі і тым больш рэкламаваць яе ўдзельнікаў. Сыходжу ў творчы адпачынак”.*



## «Рэвалюцыі ніхто рабіць не збіраўся...»

Сыход з Саюза некаторых літаратараў і артыкулы Новікава справакавалі развіццё дыскусіі. Спрэчкі вакол падзей атрымаліся гарачымі, так што не абышлося без пераходу на асобы.

*“Добра быць “таленавітым і вядомым”, седзячы на дзяржпасадах і дзяржбюджэце”*, — выказаўся пісьменнік-фантаст з Віцебска **Андрэй Герашчанка**.

Сапраўды, супрацоўніцтва з СПБ для многіх літаратараў было плённым. Тая ж Раіса Баравікова надрукавала 13 кніг пры яго падтрымцы. Між тым пазіцыя Герашчанкі ў дачыненні менавіта да былых паплечнікаў ці не занадта радыкальная? І чым можна адказаць на такія выпады?

*“Гісторыя вучыць, што любы член любой арганізацыі робіцца для многіх ворагам, як толькі ўголас выказвае сваю нязгоду з “генеральнай лініяй”,* — каменціруе былога паплечніка па Саюзе Валерый Гапееў. — *А наконт адказу... Каму адказваць? Якая можа быць рэакцыя на словы чалавека, які, называючы сябе беларускім пісьменнікам, адначасова кажа: “Откровенно говоря, из всех вышедших я слышал только о Р.Боровиковой, да и то особенного интереса она у меня никогда не вызывала”? Сумная ўсмешка. Горкая ўсмешка.*

*Што тычыцца Новікава... Дыскусія найперш вымагае адноснай роўнасці бакоў у плане інтэлектуальным, маральным... Вы зможаце дыскутаваць з чалавекам, які выстаўляе на сваім асабістым сайце (ён называе сябе прафесійным псіхолагам) фотаздымак рэдактара часопіса, маладой абаяльнай жанчыны, шматдзетнай маці, і запрашае сваіх сяброў-псіхолагаў знайсці на яе твары... прыкметы брутальнасці? Вось я дыскутаваць з такімі людзьмі не магу. Мы не на розных узроўнях — мы ў розных плоскасцях.*

*Пры ўсім вось што я хачу асабліва падкрэсліць: саюз пісьменнікаў — гэта грамадскае аб’яднанне, творчы саюз. Такіх можа быць процьма. Аб’яднацца могуць людзі розных прафесій і нават аматары. Кінолагі і філатэлісты, аматары кальянаў і падводнага палявання. І мне не зусім зразумела: навошта такому ардынарнаму факту (ну, нехта уступіў, нехта сышоў) надаваць столькі ўвагі? Не трэба прымешваць у фарбы творчасці розныя адценні той жа палітыкі. Ніхто тут ніякай рэвалюцыі не імкнецца зрабіць. Мне не спадабалася нешта — я сышоў. Звычайнае жыццё, у якім ёсць месца і канфліктам, і непаразуменням, і прымірэнням, і ўсяму астатняму”.*

Атрымліваецца, сыход з Саюза шараговым здарэннем называюць і літаратары, што пакінулі аб’яднанне, і кіраўніцтва арганізацыі. Калі верыць словам і таго, і другога боку, то эскалацыя канфлікту адбылася выключна дзякуючы крытыцы псіхолага Аляксандра Новікава...

*“Саюз многа даў мне ў плане сустрэч з творчымі асобамі, для адчування сябе часцінкай літпрацэсу,* — узгадвае Валерый Гапееў. — *Калі б было магчымым існаванне абласнога аддзялення аўтаномна ад цэнтра — я б застаўся ў ім, бо на Берасцейшчыне з боку ўлад самых розных узроўняў я бачыў толькі павагу да Слова і Аўтара. У самім аддзяленні былі і спрэчкі, былі і ёсць розныя погляды, але я не сустракаў зняважлівага стаўлення хоць кагосьці да кагосьці...”*

ДАВЕДКА

### Хто такі Аляксандр Новікаў?

Нарадзіўся ў Гомелі. Адукацыя: у 1978 годзе скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт (матэматыка). У 1999 годзе — БДУ па спецыяльнасці “псіхолаг”. З гэтага ж часу працуе практыкуючым псіхолагам. Аўтар праектаў “Свет практычнай псіхалогіі”, “Беларускі літаратурны партал” (litkritika.by).

Сярод захапленняў: логіка, фота.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

АФІЦЫЙНА

## *Абрынуўся банк?*

Нацыянальны банк Беларусі прыпыніў да 1 лютага 2014 года дзеянне ліцэнзіі ЗАТ “Банк гандлёвы капітал” (ЗАТ “ТК Банк”) на ажыццяўленне шэрагу банкаўскіх аперацый.

Так, банк больш не можа:

— прыцягваць грашовыя сродкі фізічных і юрыдычных асоб на рахункі і ва ўклады (дэпазіты);

— выдаваць банкаўскія гарантыі;

— кіраваць грашовымі сродкамі па дамове давернага кіравання;

— займацца выпускам у абарачэнне (эмісіяй) банкаўскіх плацежных картак;

— выдаваць каштоўныя паперы, якія пацвярджаюць прыцягненне грашовых сродкаў ва ўклады (дэпазіты) і размяшчэнне іх на рахункі, а таксама некаторыя іншыя аперацыі.

*“Дадзенае рашэнне прынята ў дачыненні да ЗАТ “ТК Банк” у сувязі з фінансавым становішчам банка, якое склалася і можа пацягнуць пагрозу стабільнасці банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь, інтарэсам укладчыкаў і іншых крэдытораў банка”,* — гаворыцца ў паведамленні Нацыянальнага банка.

### Да ведама

ЗАТ “Банк гандлёвы капітал” (ЗАТ “ТК Банк”) было заснавана ў верасні 2008 года. Асноўным акцыянерам ЗАТ “ТК Банк” з’яўляецца Банк Тэджарат (Ісламская Рэспубліка Іран). Яго доля складае 99,89%.

СПОРТ

## *Грыгас вяртаецца на радзіму*

Галоўны трэнер жаночай баскетбольнай зборнай Беларусі Рымантас Грыгас узначаліў мужчынскі літоўскі клуб “Піена Жвайгджэс” (што ў перакладзе — “Малочныя Зоркі”).

“Хацеў папрацаваць на радзіме, паколькі даўно не быў дома. Таму запрашэнне прыняў з задавальненнем”, — адзначыў трэнер. Пры гэтым ён падкрэсліў, што гатовы працягнуць працу і з беларускай жаночай зборнай. Аднак канкрэтыкі з боку Беларускай федэрацыі баскетбола ў гэтым пытанні пакуль не з’явілася.

ТРАГЕДИЯ

## *Ехали с тренером...*

В результате ДТП в Гродненском районе погибла 13-летняя спортсменка, 14-летняя девочка попала в больницу. Обе находились в автомобиле, которым управлял тренер спортивной школы.

“На 19-м километре автодороги Гродно—Озеры, вблизи деревни Стриевка Гродненского района 54-летний житель Гродно (тренер спортивной школы), управляя автомобилем “Тойота Ярис”, не справился с управлением, выехал на левую обочину и опрокинулся, — сообщает ГАИ МВД Беларуси. — В результате ДТП 13-летняя девочка от полученных травм скончалась на месте, а 14-летняя с травмами помещена в больницу. Обе девочки — жительницы Гродно, находились на заднем сидении, ремнями безопасности пристегнуты не были. Водитель был пристегнут ремнем безопасности, телесных повреждений не получил”.

СИТУАЦИЯ

# Украденный отпуск?

*Бывший работник детского сада Елена Михальская утверждает, что в Беларуси можно лишиться работы, где не платят даже полутора миллиона зарплаты, если начинаешь отстаивать свои права.*

— Более 13 лет я проработала в детском саду №5 города Волковыска помощником воспитателя, — рассказывает Елена Александровна свою историю. — Когда меня принимали на работу, я предоставила в администрацию свои документы, в том числе свидетельство об инвалидности и справку МРЭК.



Теперь, когда в садике уже другая заведующая, выясняется, что эти документы куда-то подевались, растворились, никто не знал и не видел, что я инвалид. Хотя это написано у меня на лице: достаточно увидеть мой глаз, который ничего не видит. Без посторонней помощи я не могу прочитать ни одной бумажки!

Однако, когда я вышла на работу после второго декрета, из моей зарплаты подоходный налог высчитывали полностью. Хотя это незаконно, потому что у меня двое маленьких детей: сейчас дочери Варе 5 лет, сыну Тимуру 7 лет. Причем они ходили в наш сад, так что администрация не могла не знать возраст детей. Тем не менее три года меня фактически обсчитывали: вместо 22 тысяч налога с меня высчитывали 100 тысяч! Из-за этого я попала в разряд малоимущих, несколько раз обращалась за адресной социальной помощью, брала льготный кредит на товары белорусского производства. Обнаружила я эту “ошибку” случайно и предъявила претензии заведующей. В течение одного дня мне выплатили эти деньги, но потом создали условия, чтобы я уволилась.

**— А какая у вас была зарплата?**

— Миллион 100 тысяч, миллион 200 тысяч... Но, знаете, и на это место тут же нашлись желающие, ведь в Волковыске очень сложно найти работу.

А моя история получила продолжение.

Я узнала, что, оказывается, мне и отпуск предоставляли неправильно, не в соответствии с законодательством. На протяжении четырех лет ежегодно я отдыхала 21 оплачиваемый день вместо 30, положенных инвалиду III группы! Юристы сказали, что компенсацию за это я тоже могу истребовать. Я обратилась к заведующей. Тогда мне было сказано, что у сада не было документов, свидетельствующих о том, что я инвалид.

Я написала в налоговую, в ОБЭП, в исполком, в отдел образования... Все шлют отписки: мол, администрация не знала, что я инвалид, документов якобы я не представила, и поэтому мне никто ничего не должен. Более того, чиновники из исполкома представили меня аферисткой — говорят, что я умышленно не сообщила о том, что я инвалид. Как мне на это реагировать?! Что я могла скрывать? Свой слепой глаз? Более того, заведующая неоднократно интересовалась, какую я получаю пенсию как инвалид III группы. В конце концов, на работе мне выдавали страховой медицинский полис, в котором указано, что я инвалид III группы.

**— С вами не продлили контракт?**

— Уволили по соглашению сторон. Я уже просто не могла больше выдерживать это давление, которое началась после того, как я обнаружила такой “косяк” в их работе.

**— Елена, а чем сейчас занимаетесь?**

— Работаю социальным работником. Зарплату обещали чуть повыше — 2 миллиона. Но и здесь начались проблемы, опасаюсь, что могут уволить. Говорят, что взяли на испытательный срок как здорового человека, потребовали документы об инвалидности. Предъявила свидетельство, говорят: давай справку из МРЭК. Съездила в Гродно, взяла эту справку. Не знаю, что будет дальше. Мне кажется, что просто на директора давят из исполкома. Мне уже негласно сказали: мол, откажись от своих претензий к детсаду, а по сути — к отделу образования, спорта и туризма исполкома, и тогда будешь работать спокойно. Я ведь решила обращаться в суд, чтобы мне компенсировали украденные дни отпуска. Теперь ищу грамотного юриста.

Ведь что получается: в нашем социально ориентированном государстве могут выжить с работы мать двоих несовершеннолетних детей, инвалида III группы только потому, что она потребовала от работодателей не нарушать Трудовой кодекс?

ЗВОНОК В ДЕТСКИЙ САД

## *«Причина всех бед — она сама»*

Принцип “Народной Воли”: выслушал мнение одной стороны — дай слово и второй. Естественно, мы позвонили заведующей детсадом №5 города Волковыска Наталье Владимировне Дерговица. Если честно, казалось, что проблема выеденного яйца не стоит. Ну, ошиблась администрация, напутала с отпуском Михальской — признайте ошибку. Ведь, учитывая зарплату Елены Александровны, сумма ее компенсации за недополученные дни отпуска копеечная.

Однако Наталья Владимировна уверяет, что никакой ошибки со стороны работодателя не было.

— Елена Александровна обращалась в четыре инстанции, — высказывает свое мнение о возникшей ситуации руководитель детсада. — И везде, в том числе в Департаменте по труду, ей ответили, что она, устроившись на работу, не предоставила удостоверение по инвалидности. В детсад приходило уже три проверки. Если нет документа, то мы и не имеем права предоставлять 30-дневный отпуск.

А то, что ее инвалидность, как она говорит, видна невооруженным глазом, к делу не подошьешь. По внешнему виду инвалидность не определяется. В ее личном деле должен лежать соответствующий документ. А она почему-то это скрыла. Кроме того, она ежегодно проходит медосмотр, нигде в медсправке не было указано, что она инвалид.

Я работаю в этом детсаду с 2008 года. Елена Александровна с 2005 по 2010 была в декретном отпуске. На мой взгляд, выйдя из декрета, она меня, как нового руководителя, должна была поставить в известность, что она инвалид III группы, поинтересоваться, какие у нее есть льготы. Но этого не было. Я только при увольнении узнала, что у нее есть группа инвалидности.

Елена Александровна сегодня хочет компенсации с учетом инфляции и девальвации в размере 30 миллионов рублей. Но без документа сегодня нигде и никто ничего не заплатит. А этот документ Михальская не предоставила. Причина всех бед — она сама.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

СПРАВЫ ЖЫЦЦЁВЫЯ

# Каго цікавіць адсутнасць парковак?

*Усё часцей прыходзяць весткі з франтоў вайны за... парковачныя месцы ў сталічных дварах. Сітуацыя пагаршаецца з кожным днём, і мірнымі перамовамі гэтая вайна скончыцца не можа.*

То ў адным, то ў другім месцы ўжо даходзіць да парэзаных шын, пабітага шкла, падрапаных кузаваў. Што далей? Пра платныя паркоўкі ў цэнтры сталіцы блізка ад дома ці офіса можна толькі марыць. Можна, канешне, жыхарам сталічных дамоў паспрабаваць аб’яднацца, каб неяк вырашыць праблему сваімі сіламі. Але і тут яны рызыкуюць натрапіць на бюракратычную сцяну, згубіць грошы і час. Так і адбылося з жыхарамі дома №89 па вуліцы Максіма Багдановіча, на першым паверсе якога знаходзіцца вялікі гаспадарчы магазін “Дылема”.

Побач з гэтым домам, у адной са славутых мінскіх “кукуруз” — шматлікія офісы. У іх штодня прыязджаюць супрацоўнікі на сваіх машынах. Людзі мы не багатыя, бізнес ідзе дрэнна, але толькі ля аднаго гэтага офіснага будынка трэба прыпаркаваць штодня каля 250 машын. У двары бліжэйшага дома — як на аўтамагістралі: няма ніводнай хвіліны, каб не заехаў ці не выехаў нейкі аўтамабіль. І людзі не вытрымалі. Месяц таму яны правялі сход, запрасілі супрацоўнікаў ЖЭСа і сумесна пастанавілі паставіць парковачныя бар’еры на тым месцы, дзе жыхары раней паркавалі свае ўласныя аўтамабілі. Усе скінуліся па 870 тысяч, праз пару дзён супрацоўнікі ЖЭСа бар’еры ўсталявалі, але...

Нават месяца не прайшло, як бар’еры спілавалі і... “натурай” вярнулі збянтэжаным жыхарам. Пры гэтым паведамілі, што грошы людзям ЖЭС вярнуць не можа.

Пенсіянер **Пётр Процка,** з якім мы сустрэліся прама ў двары дома**,** распавядае:



*— Я ўсё сваё жыццё працаваў будаўніком. Як вы лічыце: 100 долараў для мяне, пенсіянера, гэта вялікія грошы ці не? Але справа нават не ў гэтым. Мы ў доме жывём з 1984 года. Тады столькі машын, як вядома, не было. Хадзілі па вуліцы пару тралейбусаў, быў ціхі такі раёнчык. Мы тады сваімі сіламі абсталявалі для сябе паркоўку. Зімой чысцілі снег, восенню прыбіралі лісце, летам таксама сачылі за парадкам. Цяпер жыць тут стала проста невыносна. Паглядзіце — вунь машыны паркуюцца пад сцяной дома на другім ярусе. Тут, унізе, проста няма дзе нагу паставіць. Прэтэнзій да ЖЭСа ў нас няма, бо там усё разумеюць і нам пайшлі насустрач, ведаючы, што сітуацыю трэба вырашаць. Гэта ўжо гарадскія ўлады ўмяшаліся і сказалі, што ўстаноўка бар’ераў была незаконнай. А рабіць з двара аўтатрасу законна? А будаваць шматпавярховыя офісныя будынкі і не ўлічваць, колькі машын ля гэтых будынкаў трэба прыпаркаваць, законна?.. Вось цяпер бар’еры прыбралі і нам раздалі. А навошта ён мне на балконе? Што цяпер з ім рабіць?*

Мясцовая жыхарка **Людміла Мамаева** падтрымлівае суседа:

*— Была вялікая праблема з машынамі, а ўшчыльненнем забудовы яе зусім да краю давялі. Нядаўна пабудавалі ў нас пад носам у парушэнне ўсіх санітарных нормаў гэты шматпавярховік. Я ўжо не кажу пра тое, што нас ніхто не спытаў і нават у вядомасць не паставіў пра маючае адбыцца будаўніцтва. Я ўжо не кажу пра тое, што, калі яны тут будавалі, у нас тынкоўка ў кватэрах асыпалася. Мне падаецца, што ў гэтым доме жывуць прадстаўнікі адміністрацыі раёна, бо яны бясконца ўсім незадаволеныя і бясконца дабіваюцца свайго. Калі іх дом будавалі, то нам сказалі, што ў нас з паркоўкай не будзе праблем, бо там яна свая. Палічыце, колькі там кватэр, а паркоўка толькі на 11 месцаў. Натуральна, яны адразу ж пачалі прэтэндаваць на нашы месцы. Перш за ўсё яны паскардзіліся на тое, што ў нас былі ўсталяваны слупікі з ланцугамі. Напісалі, што ім хадзіць нязручна, што яны за іх чапляюцца. І хаця гэта проста смешна, слупікі прыбралі і на нашай паркоўцы з’явіліся іншыя машыны. Цяпер мы ўсталявалі гэтыя бар’еры — адразу пайшла чарговая скарга, і Мінгарвыканкам загадаў нашаму ЖЭСу іх прыбраць.*



У гэты момант каля нас спыняецца аўтамабіль. Кіроўца, якая прадставілася **Таццянай Лобіч,** адразу расказвае пра свой боль:

*— Паглядзіце, як мне сюды цяжка дабірацца з малым дзіцём. Я пакуль прывязу яго з садка, усе месцы ў двары ўжо заняты. Стаўлю машыну абы-дзе часова, на “аварыйку”, і з сумкамі вяду дзіцёнка ў пад’езд. Потым, як той паляўнічы, пільную, дзе месца вызваліцца. Дзяцей адных у двор мы ўжо даўно выпусціць не можам: сітуацыя такая, што можна выйсці з пад’езда і адразу пад колы трапіць. Але гарадскім уладам напляваць на праблемы людзей. Замест таго каб вырашыць гэтае пытанне, яны зрабілі вінаватым ЖЭС, які паспрабаваў дапамагчы жыхарам.*



Таццяна лічыць, што гарадскія ўлады павінны заняцца вырашэннем праблемы як мага хутчэй:

*— Мне падаецца, што трэба тэрмінова вырашаць праблему паркоўак. Ну, напрыклад, будаваць у дварах падземныя паркінгі. Рабіць нейкія адмысловыя зоны, выспачкі на некалькі аўтамабіляў, бо, калі не пачаць рабіць гэта зараз, нас чакае калапс. Потым будзе значна складаней вырашаць праблему, машын жа ўсё больш і больш.*

Галоўны інжынер ЖЭС №42 толькі і пацвердзіў, што Мінгарвыканкам задаволіў скаргу жыхароў новага дома №91а і прызнаў усталяванне парковачных бар’ераў самаўпраўствам. “*Мы бар’еры прыбралі, выдалі іх жыхарам дома №89. Грошы за тое, што іх ЖЭС усталяваў, і кошт бар’ераў мы, зразумела, вярнуць не можам. Ведаем, што там напруга з паркоўкай, але такая сітуацыя тут паўсюль. Як гэта вырашыцца, не магу сказаць. Мы робім усё, што можам”,* — уздыхае ён.

Дык хто і калі зоймецца праблемай паркоўак у сталічных дварах? Ці ёсць у гарадскіх органах чыноўнікі, якіх цікавіць гэтая праблема? А можа, жывучы ў катэджах, яны пра яе нічога і не ведаюць?

**Любоў ЛУНЁВА**

## Депутаты в Уругвае «играют с огнем»

Нижняя палата парламента Уругвая одобрила законопроект, легализующий продажу марихуаны. Если, как ожидается, закон поддержит верхняя палата, то Уругвай станет первой страной в мире, где можно будет легально выращивать, продавать и потреблять этот наркотик.

Согласно закону, уругвайцы старше 18 лет смогут покупать до 40 граммов каннабиса в месяц. Марихуана не будет продаваться иностранцам. Президент страны Хосе Мухика заявляет, что декриминализация марихуаны ослабит влияние наркоторговцев, однако противники нового закона предупреждают о том, что власти играют с огнем.

ЭВРИКА!

## Источник энергии будущего

Гидрат метана в ближайшем будущем вполне способен стать одним из основных источников энергии — по словам ученых из США и Японии, остается только разработать способ промышленной добычи топлива.

Гидрат метана — кристаллическая форма природного газа — “хранится” на дне океанов и в Арктике. Японцы уже провели успешный эксперимент по добыче газа недалеко от полуострова Ацуми и в течение 10 лет собираются сделать добычу гидрата метана промышленной.

По прогнозам ученых, гидрат метана сможет стать новым источником энергии. Приблизительно 700 тысяч триллионов кубических футов этого вещества, разбросанного по всему миру, может содержать больше энергии, чем все ранее открытые месторождения нефти и газа, вместе взятые.

Хотя о масштабной добыче гидрата метана говорить, конечно, рано. Единой технологии, позволяющей добывать это вещество со дна океана или в ледниках Арктики, пока нет. Многие страны экспериментируют, используя разные методы, но они дорогостоящие и, по большей части, пока не окупаются.

Однако через десятилетие, по всей видимости, ситуация кардинально изменится. “Огромное число людей по всему миру работают в этой сфере. Правительства многих стран вступили в игру”, — рассказал глава U.S. Geological Survey по проектам газовых гидратов **Кэролин Руппел.**

## Поможет робот Atlas

Последняя разработка инженеров компании Boston Dynamics — робот Atlas (или Agile Anthropomorphic Robot) — очень похож на Терминатора. Но есть одно принципиальное отличие: Atlas — робот мирный и завоевывать весь свет не собирается. Напротив, он будет спасать людей и помогать им, выполняя тяжелую работу, которая не под силу даже самым тренированным профессионалам. В число его обязанностей будет входить работа с авариями на ядерных реакторах, устранение утечек нефти и тушение крупных пожаров.

АСОБЫ

# Аун Сан Су Чжы — сімвал надзеі для ўсяго свету

*Так вядомую ўсяму свету апазіцыянерку з М’янмы назваў генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун. Сан Су Чжы — прыклад таго, як трэба змагацца за свабоду.*

За дэмакратыю ў сваёй краіне Сан Су Чжы змагалася больш за 15 год, і гэтая барацьба яшчэ не скончылася. Яна нарадзілася ў 1945 годзе ў горадзе Янгон. Яе бацька быў вядомым грамадскім, палітычным і ваенным дзеячам, які спрычыніўся да атрымання Бірмай (каланіяльная назва М’янмы) незалежнасці. І нават узначаліў пераходны ўрад, але ў 1947 годзе ён разам з іншымі сябрамі часовага ўрада быў забіты. Дзень яго смерці ў М’янме адзначаецца як дзень незалежнасці краіны.

Помнікі Аун Сану былі пастаўлены у шмат якіх гарадах краіны. Менавіта таму ваенныя ўлады М’янмы не асмеліліся ліквідаваць апазіцыянерку. У М’янме на працягу 20 год існаваў сацыялістычны аднапартыйны рэжым, падобны да кітайскага і савецкага.

Да 1988 года Сан Су Чжы вучылася і працавала за мяжой, у ЗША і Англіі. Атрымала навуковую ступень доктара ва ўніверсітэце ў Лондане. Вярнулася ў Бірму ў 1988 годзе, калі ў краіне пачыналіся змены. Выступіла на мітынгу і адразу стала нацыянальным лідарам і нацыянальным сімвалам. Аднак дэманстрацыя была падаўлена вайскоўцамі, дзясяткі людзей былі забіты, а ў краіне ўсталявалася ваенная хунта.

У сваёй дзейнасці Сан Су Чжы абапіралася на будызм, вучэнні Гандзі і Марціна Лютэра Кінга. У 1988 годзе яна сфарміравала адзіную апазіцыйную платформу “Нацыянальная дэмакратычная ліга”. Папулярнасць Сан Су Чжы стала рэальнай пагрозай для ваеннай хунты. І ў 1989 годзе яна была арыштавана і заключана пад хатні арышт. Агульна пад хатнім арыштам яна была 15 год з кароткімі перапынкамі, яе арыштоўвалі 10 разоў. Дзеці і муж жылі ў Англіі. Улады М’янмы забаранялі ўезд яе сям’і ў краіну, нават калі яе хворы на рак муж хацеў прыехаць і развітацца з жонкай. Улады спецыяльна не давалі мужу візу, жадаючы, каб Сан Су Чжы выехала за мяжу сама. Яна адмаўлялася, бо была ўпэўнена, што ўлады яе больш ніколі не пусцяць назад. Па сутнасці, яна ахвяравала сваё прыватнае жыццё краіне.



Падчас сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам.



Сан Су Чжы ў Вялікабрытаніі.

У 1990 годзе яна стала лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру, якую не змагла атрымаць. Прэмію ўзялі яе дзеці. Яе змяшчалі пад хатні арышт з любой надуманай нагоды. Так, у 2007 годзе яе абвінавацілі ў тым, што яна не заплаціла падаткаў з Нобелеўскай прэміі. У 2009 годзе тэрмін зняволення працягнулі яшчэ на некалькі год па надуманых прычынах.

Разам з тым улады праводзілі рэпрэсіі супраць насельніцтва, будыйскіх манахаў, студэнтаў. Краіна знаходзілася ў міжнароднай ізаляцыі. Але ізаляцыя і прэсінг з боку міжнароднай супольнасці прывялі да таго, што ў 2010 годзе Сан Су Чжы была вызвалена. Упершыню за 10 год яна змагла сустрэцца са сваімі дзецьмі. На працягу двух апошніх год Сан Су Чжы змагла наведаць заходнія краіны, дзе яе сустракалі як вялікі сімвал барацьбы за свабоду.

**Павел УСАЎ.**

У СУСЕДЗЯЎ

## 69-я гадавіна пачатку Варшаўскага паўстання

Яна адзначана ўчора. 1 жніўня 1944 года ў змаганні за Варшаву выступілі дзясяткі тысяч слаба ўзброеных паўстанцаў. Лідары планавалі, што паўстанцы будуць трываць каля дзясятка дзён і дзякуючы падтрымцы Чырвонай Арміі сталіца будзе хутка вызвалена.

Дапамога, аднак, не прыйшла, а бітва за Варшаву доўжылася 63 дні. У ёй загінула каля 20 тысяч паўстанцаў і каля 180 тысяч мірных жыхароў горада.

Галоўныя ўрачыстасці з удзелам прэм’ера Дональда Туска прайшлі на магілах паўстанцаў. Вечарам прэзідэнт Бранiслаў Камароўскі браў удзел ва ўрачыстасцях каля помніка “Палеглі непераможанымі. 1939—1945” на могілках паўстанцаў Варшавы.

БРУСЕЛЬ—КІЕЎ

## Члены місіі ЕС сустрэліся з Юліяй Цімашэнка ў бальніцы ў Харкаве

Падрабязнасці двухгадзіннай размовы палітыкаў з былым прэм’ер-міністрам Украіны не паведамляюцца. Былы прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі і былы старшыня Еўрапарламента Пэт Кокс выехалі з тэрыторыі бальніцы, не каментуючы дэталі сустрэчы журналістам, якія чакалі каля медыцынскай установы. Хутчэй за ўсё тэмай гутаркі была будучыня Юліі Цімашэнка і яе магчымы выезд за мяжу для лячэння.

Напярэдадні гэтае пытанне прадстаўнікі місіі Еўрапарламента абмяркоўвалі з прэзідэнтам Украіны Віктарам Януковічам.

НУ И НУ!

## Первый в мире искусственный гамбургер ценой 385 тысяч долларов

В Лондоне на торжественной презентации 5 августа будет съеден гамбургер, выращенный в лаборатории из стволовых клеток. На производство куска искусственного мяса весом 143 грамма было потрачено 250 тысяч фунтов стерлингов (385 тысяч долларов США).

Возможно, эксперимент, проведенный голландскими учеными под руководством физиолога Марка Поста из университета Маастрихта в Нидерландах, откроет новую эру для человечества и поможет спастись от голода в условиях возможной экологической катастрофы. По мнению экспертов, искусственное мясо может появиться в супермаркетах уже в течение ближайших 10 лет.

ТАМ, ГДЕ ДИКТАТУРА

# Ох уж эти «сяо сань»!

*Как любовницы разоблачают коррумпированных китайских чиновников*

В Китае возникает новый тип разоблачителей — бывшие любовницы высоких чиновников. Очередной его представительницей стала 26-летняя **Цзи Иннань.** По ее словам, в конце прошлого года она обнаружила, что ее жених, влиятельный пекинский партийный чиновник, был женат все то время, пока они были вместе, и что у него есть сын-подросток.

За последние недели Цзи опубликовала в интернете сотни фотографий, дающих редкую возможность посмотреть на жизнь чиновника центрального аппарата китайской власти. Несмотря на свою скромную зарплату, этот человек, по-видимому, мог дарить своей любовнице дорогие машины, водить ее за покупками в Prada и класть ей в кошелек по 1000 долларов в день.

*“Я никогда не думала, что человек, которого я так любила, которому давала столько любви, с которым прожила четыре года, однажды станет моим врагом,* — заявила Цзи. — *Ужасно пережить такое”.*

Партийные чиновники много лет считались неприкосновенными, однако теперь свидетельства их слабостей регулярно попадают в интернет. Правительственные цензоры часто пытаются с этим бороться, однако одновременно с этим новое руководство страны в последнее время стало показательно выгонять чиновников (обычно не слишком высокопоставленных), замешанных в секс-скандалах, стараясь таким образом доказать, что оно серьезно относится к борьбе с проступками госслужащих.

В мае видный чиновник энергетического ведомства **Лю Тенань** лишился работы, после того как его бывшая любовница заявила журналистам, что он выманил у банков 200 миллионов долларов. В прошлом году в интернет попала видеозапись, на которой секретарь райкома партии из Чунцина **Лэй Чжэнфу** занимался сексом с любовницей. Лэю пришлось уйти в отставку.

Цзи Иннань говорит, что ее бывший любовник — это **Фань Юэ,** заместитель директора Государственного архивного управления. Сейчас в отношении него ведется расследование, утверждает его сотрудник, давший комментарий на условиях анонимности.

Известный китайский блогер **Чжу Жуйфэн,** разместивший на своем сайте фотографии и видеозаписи Цзи, утверждает, что он в прошлом месяце говорил с Фанем. Тот сказал ему, что он потратил на Цзи не так много, как она заявляет. По его словам, сумма была меньше 1,7 миллиона долларов, но больше 500 тысяч. *“Она — плохой человек, слишком жадный,* — цитирует Фаня блогер. — *Я с ней не смог справиться, и мне пришлось ее бросить”.*

Политические скандалы вокруг любовниц, которых в Китае называют “сяо сань” — “маленькими третьими”, стали настолько обычным делом, что официальная партийная ежедневная газета в мае посвятила им редакционную статью, в которой подчеркнула, что в борьбе с коррупцией страна не может полагаться только на брошенных женщин.

“Уже поговаривают, что антикоррупционные ведомства любого уровня справляются с делом хуже, чем отвергнутые любовницы, — говорится в статье, вышедшей в “Женьминь Жибао”. — Хотя это и шутка, но она отражает серьезный вопрос: на кого можно опереться, чтобы противостоять коррупции?”

Этот вопрос приобрел дополнительную актуальность, когда пришедший к власти в марте Си пообещал искоренить коррумпированных чиновников как на высшем, так и на низшем уровне, или, по его собственному выражению, “и тигров, и мух”.

*(Из зарубежной прессы.)*

СТОП-КАДР!



У нямецкім горадзе Ільменау, што ва Усходняй Германіі, у бары “Robots Bar and Lounge” гасцей абслугоўвае робат-бармен, яго імя Карл.



Шаолиньский буддистский монастырь в Китае — колыбель боевых искусств. Именно в этом монастыре зародились практически все боевые искусства, а про навыки боя шаолиньских монахов ходят легенды.

СЛЫШАЛИ?

## Секс-пленка Моники Левински

В руки западных журналистов попала аудиокассета, на которой было записано послание Моники Левински 42-му президенту США Биллу Клинтону. 22-летняя стажерка Белого дома уговаривает главу государства пойти с ней на рандеву. Впоследствии эта интрижка чуть не стоила Клинтону президентского кресла, сообщает Radar Online.

Сообщается, что предприимчивая стажерка решила оставить Клинтону сообщение на автоответчике, так как устала писать ему записки. Судя по записи, Левински настроена максимально серьезно. “У меня есть к тебе два предложения, но мы должны обязательно встретиться. Я слишком милая и симпатичная, чтобы ты смог мне отказать, не так ли? Я могла бы полностью раздеться и все такое. Надеюсь, тебя понравится моя идея”, — говорит девушка.

Журналистам National Enquirer удалось раздобыть эту записи у неких знакомых Левински, которые пожелали остаться анонимными. Ранее считалось, что эта кассета уничтожена.

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

## Герцогиня Кембриджская и первая леди КНР вошли в список самых стильных знаменитостей

Американский журнал Vanity Fair в очередной раз обнародовал список самых стильно одевающихся людей в мире. Уже в четвертый раз в него попала супруга британского принца Уильяма — **герцогиня Кембриджская Кейт,** родившая на прошлой неделе сына.

Как отмечает издание, иконой стиля Кейт считает мать своего мужа — принцессу Диану, сообщает ИТАР-ТАСС. Среди самых запоминающихся нарядов герцогини в 2013 году журнал назвал бледно-розовое пальто от Александра Маккуина и такого же цвета шляпку, в которых она появилась в июне на параде в честь Дня рождения королевы Елизаветы II.

В этом году в список Vanity Fair, в котором знаменитости не распределены по местам, также попала первая леди Китая **Пэн Лиюань** — известная исполнительница народных и патриотических песен, являющаяся также генерал-майором Народно-освободительной армии КНР.

Издание отметило хороший вкус актрис **Керри Вашингтон, Шарлиз Терон** и **Брук Шилдс,** исполнителей Джастина Тимберлейка и Бейонсе, а также гитариста Rolling Stones **Кита Ричардса.**

## Развітальны каралеўскі пацалунак

**Каралева Паола цалуе караля Бельгіі Альберта Другога пасля перадачы ім улады сыну Філіпу.**



Народная Воля http://www.nv-online.info
2 ЖНІЎНЯ 2013 г.

ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ



Фота Д.Кунстадтара

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# Гурын-Маразоўскі. Забойства на Ягелонскай

*(Газетнае апавяданне)*

(Заканчэнне. Пачатак у №59.)

## 14. Падрабязнасці «Кур'ера Віленскага» і ці можна страляць у паліцыянтаў...

“Кур'ер” паведамляў: “У пятніцу а 22-й з мінутамі ў кавярні Тамашэвіча — Ягелонская, 5 — учынена агіднае забойства галоўнага сведкі абвінавачання ў працэсе “Грамады” Міхала Гурына.

У кавярню Тамашэвіча тут жа (!) прыбылі меставы стараста Вацлаў Ішора, а крыху пазней пракурор Раўзэ, судовы следчы, функцыянеры палітычнай паліцыі, паліцыйны фатограф...”

Тое, што на месца злачынства хутка з'явіліся вышэйназваныя асобы (хоць і было ўжо даволі позна), толькі сведчыць: М.Гурын для ўлады меў немалую вагу.

“Кур'ер” паведамляў далей: “Забойцу арыштавалі і пасадзілі ў турму. Сведкі злачынства пан Тамашэвіч і пан N, дазорац таварыства Klucze, які затрымаў забойцу на рагу вуліц Гданьскай і Віленскай, расказалі...”

Удакладню. Дазорац не быў сведкам злачынства, і ён затрымліваў Клінцэвіча не адзін, а разам з паліцыянтам. Прозвішча дазорца, як бачна, схавана пад літарай N — мусіць жа, баяліся называць яго праўдзівае імя, каб камінтэрнаўцы не адпомсцілі чалавеку. А вось імя гаспадара кавярні назвалі — трэба думаць, лічылі: Тамашэвічу ніякая небяспека не пагражае.

Сведкамі злачынства былі яшчэ жонка Тамашэвіча, яго дачка і заўсёднікі.

Клінцэвіч жа дабіваў М.Гурына на іх вачах; дабіваў і... нават не думаў, што можа да смерці ўсіх напалохаць. І, відаць па ўсім, напалохаў — увагнаў у такі страх, што яны, бедныя, і слова сказаць не маглі, таму следства адступілася ад іх, і ў выніку газета не згадала ў якасці сведкаў ні жонку Тамашэвіча, ні яго дачку, ні кліентаў... Спалох родных, мяркую, пазней скруціў і Тамашэвіча — стала цяжка працаваць у памяшканні, падлога, сцены і мэбля якога былі заплямлены крывёй. Як ні мый, кроў чалавечую не адмыеш. І добрая палова кліентаў, можна лёгка ўявіць, адкінулася — страшна піць там, дзе забіваюць. У 1932 годзе па віленскім адрасе Ягелонская, 5 ужо знаходзілася не кавярня, а Жаночы саюз грамадзянскай працы — трэба думаць, Тамашэвіч перавёў сваё прадпрыемства ў іншае месца ці наогул закрыў яго.

Словам, стрэлы Клінцэвіча трапна пацэлілі, кажучы сённяшняй моваў, і ў чужы бізнес!

Быў і яшчэ адзін сведка забойства — спадарожнік М.Гурына, самім Клінцэвічам названы галоўным агентам палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства, аднак жа і ён у газетным паведамленні не абазначаны. Мусіць жа, з той прычыны, што агентаў нельга раскрываць.

“Кур'ер” працягваў: “Гурына арыштавалі ў Польшчы і засудзілі на два гады цяжкой турмы. Адседзеўшы ў гродзенскай вязніцы, не пакінуў канспіратыўнай работы, але неўзабаве расчараваўся ў камунізме, бо зразумеў: бальшавікі з'яўляюцца найбольшымі ворагамі беларускага народа! З таго часу варожа стаў успрымаць савецкую палітыку да беларусаў”.

Гэтыя радкі — нібыта сціслы пераказ асобных абзацаў усё таго ж ліста ад 3 лістапада 1927 года. Магчыма нават і тое, што рэпарцёр “Кур'ера” атрымаў кансультацыю Ф.Умястоўскага.

Далей ішло сцвярджэнне: М.Гурын “...узненавідзеў “Грамаду”, чальцом якой быў...”. Не, грамадоўцам М.Гурын не з'яўляўся (тут ліберальная газета перабрала меру і ці не свядома зрабіла гэта!), а што да нянавісці...

Вышэй была гаворка: М.Гурын узненавідзеў “Грамаду”, бо лічыў яе масавай правакацыяй, аднак жа галоўная прычына ягонай нянавісці, думаю, крылася ў зайздрасці! Амбітны дзеяч марыў пра сваю беларускую партыю, але такую партыю, і вельмі шматлікую, стварыў не ён, а Б.Тарашкевіч. І як тут не ўзненавідзець і таго ж Б.Тарашкевіча, і ягоную “Грамаду”!

Газетнае апавяданне ўсё больш рабілася акрэсленым: “Тамашэвіч убачыў трох мужчын, якія гутарылі перад яго кавярняй, — сярод іх знаходзіўся Гурын; ён заўсёды прыходзіў у таварыстве дзвюх асоб...”

Сапраўды, М.Гурын да Тамашэвіча ніколі адзін не завітваў і заўсёды — памятаем — вёў перамовы ў кавярні па-беларуску і шэптам; баяўся, каб не падслухалі... Тут жа ён размаўляў на вуліцы, ля кавярні, але з кім?

У прысутнасці агента паліцыі М.Гурын гаварыў з... Клінцэвічам!

Апошні ж у сваіх успамінах пра гэту гаворку ні слова не выціснуў! Баяўся АДПУ! Вярнуўшыся ў Менск, небяспечна было згадваць гэту гаворку... Як ні круці, а падпадае пад абвінавачанне — кантакт з ворагам! І няхай гэты вораг ім жа, Клінцэвічам, тут жа і пушчаны ў царства нябеснае, а ўсё адно — кантакт...

Але пра што, не зважаючы на дэфензіўшчыка, маглі гутарыць былыя сябры, нядаўнія паплечнікі, калі адзін з іх (Клінцэвіч) ужо трымаў напагатове зброю? Хутчэй за ўсё М.Гурын угаворваў Клінцэвіча не страляць, не забіваць яго, падумаць і застацца з ім у Вільні. Для чаго? Ну, мусіць жа, для ўсё той жа сэцэсійнай работы.

Не ўгаварыў... Не знайшоў патрэбных слоў... Пад руляй пісталета паспрабуй, знайдзі іх...

“Кур'ер” з бачным рэпарцёрскім азартам падаваў: “Раптам пачуўся дзіўны трэск; Тамашэвіч і не падумаў, што гэта рэвальверныя стрэлы”.

Стрэлы? Уражліваму Тамашэвічу здалося, што прагучала некалькі стрэлаў, аднак жа на вуліцы, на парозе кавярні, Клінцэвіч страляў толькі адзін раз.

“...Адчыніліся дзверы, і ў кавярню хісткай хадой ступіў Гурын; абапёрся аб столік, які стаяў пры дзвярах, крыху прайшоў наперад, аблегся на печ і моўчкі асунуўся на падлогу.

У кавярню ўбег адзін з тых, хто размаўляў на вуліцы, і тры разы стрэліў у Гурына...”

Відаць па ўсім, Клінцэвіч валодаць зброяй умеў; у менскай школе КПЗБ (як у Лошыцы, так і ў Грушаўцы) не толькі марксізму-ленінізму навучалі, аднак жа вадзілі і ў цір...

Рэпарцёр “Кур'ера” прадчуваў свой журналісцкі поспех, і каб гэты поспех быў паўнейшы, крыху падбаўляў непрыдуманаму сюжэту вастрыні. Напрыклад, прыдумаў, што Клінцэвіч двойчы стрэліў і ў пастарунковага: “... На стрэлы прыбег пастарунковы, які нёс ахову на рагу вуліц Віленскай і Міцкевіча. Забойца ж стрэліў у яго два разы і кінуўся на ўцёкі...”

Няўжо Клінцэвіч забыў правіла: у паліцыянтаў не страляць! Не, не забыў, таму і не страляў; гурынскага спадарожніка (агента палітычнай паліцыі) таксама ж не зачапіў — пакінуў жывым. Гэтыя стрэлы спатрэбіліся рэпарцёру дзеля таго, каб чыталася яшчэ больш цікава і каб лішні раз пужнуць віленскі люд: бачыце, якія яны, камуністы — нават у паліцыянтаў страляюць!

У студзені 1936 года “Кур'ер” гэтак жа “па-мастацку” абмалёўваў уцёкі з суда С.Прытыцкага: пасля замаху на Стральчука С.Прытыцкі, маўляў, адстрэльваўся і параніў аднаго паліцыянта! У першым раздзеле гэтага апавядання адзначалася: паліцыя біла ў С.Прытыцкага з усіх стваловў, а ён, маючы два пісталеты, маўчаў, не адказваў; ушчэнт зранены, трымаўся няпісанага закону: у паліцыянтаў страляць нельга!

## 15. Начны вартаўнік, дваццаць два патроны да браўнінга і зноў жонка Б.Тарашкевіча...

“Кур'ер” вёў да фіналу: “Начны вартаўнік таварыства Klucze затрымаў злачынцу на стыку Гданьскай і Віленскай; той зноў хацеў ужыць зброю, але падаспеў пастарунковы і вывернуў яму рукі.

У арыштаванага знайшлі браўнінг і запасную абойму на дваццаць два патроны”.

Вось так, падрыхтаваны школай КПЗБ малады рызыкант (і трыццаці гадоў не меў) і быў, можна сказаць, пры поўнай амуніцыі, а ў рукі даўся даволі лёгка! Нават дзіўна...

“Кур'ер” удакладніў: “Следства праводзіць судовы следчы III-га ўчастка Хэлстоўскі; пракурорскі нагляд ажыццяўляе Штэйнман”.

Маладая Польшча, няхай сабе і з царскімі законамі, — якая-ніякая, а ўсё-ткі Еўропа, таму для яе захаваць законнасць (“Кур'ер” гэта паказвае) — усё адно як перахрысціцца перад абедам.

А што да пракурора Штэйнмана, то яго згадваў у турэмных нататках С.Рак-Міхайлоўскі — у чацвер 10 лютага 1927 года Штэйнман зайшоў у камеру, не зняўшы шапку, і лукішскага вязня С.Рак-Міхайлоўскага гэта абурыла.

Аднак дачытваю: “Учора выпусцілі з турмы нейкага Сегаля; яму шаснаццаць гадоў, і ён чалец жыдоўскай арганізацыі Tinperes Bachurin...”

Паэт Фелікс Баторын растлумачыў: мяркуючы па назоўніку множнага ліку Bachurin (падлеткі), Сегаль належаў да нейкай падлеткавай арганізацыі, поўная назва якой пакуль, на жаль, застаецца не расшыфраванай.

Дык вось, яго, Сегаля “...ўзялі выпадкова, бо ў хвіліну злачынства праходзіў па Ягелонскай, і паліцыя падумала, што ён памочнік забойцы.

Учора выпусцілі й жонку Тарашкевіча, яе таксама выпадкова арыштавалі на вуліцы Ягелонскай”.

Зусім не здзіўляе арышт Сегаля — у спешцы заўсёды можна каго заўгодна, не разабраўшыся, узяць; тым больш юнака (мусіць жа, высокага і на выгляд у цемры сталага), які, пэўна ж, праз недагляд бацькоў амаль ноччу боўтаўся ў цэнтры Вільні. Аднак жа вельмі інтрыгуе тое (яшчэ раз кажу пра гэта), што на Ягелонскай апынулася і Вера Тарашкевіч! А можа, і сапраўды (льга й такое дапусціць) сачыла за М.Гурыным і, магчыма, летуценна, чыста па-жаночы абдумвала спосабы лакалізацыі небяспечнага “камунікатчыка”.

Пастарунковаму, у якога нібыта двойчы страляў Клінцэвіч, бегчы ад вугла Віленскай і Міцкевіча да кавярні Тамашэвіча было метраў 140—150.

Аднак ці мог ён на такой адлегласці, стоячы на даволі бойкай вуліцы Міцкевіча, пачуць рэвальверныя стрэлы?! А зусім побач, на плошчы Ажэшкі, была яшчэ і аўтобусная станцыя, якая, трэба думаць, не адбаўляла, а толькі падбаўляла меставога шуму і стукату.

Зрэшты, прыму версію газеты — смелы паліцыянт стрэлы пачуў! А ён сапраўды смелы: не збаяўся пагнацца за ўзброеным тэрарыстам! Праўда, цікава, чаму не пагнаўся за ім спадарожнік М.Гурына — галоўны агент палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства? Ён жа застаўся жывы!

Пэўна, кабінетны служака на парозе кавярні ўмлеў ад страху...

Паліцыянт бег метраў 400—450, спачатку па Ягелонскай, а тады ўжо, не дапіраючы да Завальнай, улёг налева па Гданьскай.

Я сказаў, што ён смелы, і гэта праўда, аднак жа смеласць начнога вартаўніка з таварыства Klucze ўражвае больш. Паліцыянт хоць меў зброю, а вартаўнік, пэўна ж, не, аднак жа заступіў Клінцэвічу дарогу.

Газета ўдакладняе: затрыманне адбылося на стыку Гданьскай і Віленскай — значыць, побач з домам, дзе жыў Б.Тарашкевіч (Віленская, 12) і, можна сказаць, пад вокнамі кватэры Яна Пазняка, на зусім блізкай ад Гданьскай вуліцы Людвісарскай...

## 16. Пра тое ж і Міхась Машара

У рамане “Лукішкі” М.Машара стварыў мастацкую карціну знішчэння М.Гурына, аднак яна па сутнасці з'яўляецца толькі старанным пераказам успамінаў Клінцэвіча. Дарэчы, і М.Арэхва, і Я.Міско таксама ж ні на крок не адступілі ад гэтых правільна складзеных успамінаў, калі пісалі пра апошнюю гадзіну інспіратара сэцэсіі. Паважаныя аўтары дзейнічалі паводле прынцыпу: як сказана ў Клінцэвіча, так будзе сказана і ў нас; напрыклад, не ўспомніў Клінцэвіч пра Капуцкага, то і яны не ўспомнілі...

Аднак жа ёсць і дробныя адхіленні.

Спісваючы ўспаміны, М.Машара паведамляў: Клінцэвіч даведаўся, што М.Гурын працуе ў газеце “Беларускі Дзень”, а жыве на Гарохавай. Знарок ці незнарок, але раманіст памыліўся, бо ў Клінцэвіча ясна сказана: М.Гурын жыў на Гарбарнай. Зрэшты, ён часта мяняў кватэры, таму мог жыць і на Гарохавай, а што да дома, у якім асталяваўся на Гарбарнай, то Клінцэвіч, а ўслед, само па сабе, і М.Машара даводзяць: М.Гурын жыў у доме галоўнага кіраўніка віленскай гарадской паліцыі!

Мусіць жа, Клінцэвіч у сваіх успамінах дапусціў, скажам так, мастацкае перабольшанне, пахваліў самога сябе, намякаючы менскім заказчыкам: “Бачыце, у якім доме хаваўся правакатар! Да яго было не даступіцца, і тым не менш я выканаў заданне!”

Клінцэвіч заўважыў М.Гурына ў дзевяць вечара на вуліцы Міцкевіча, але не аднаго — з галоўным (!) агентам палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства. Там галоўны кіраўнік паліцыі, а тут галоўны агент паліцыі, — па гучанні ж нібыта адна асоба! Агент гэты, вядома, у раман перайшоў з успамінаў Клінцэвіча...

Недзе з паўтары гадзіны Клінцэвіч сачыў за М.Гурыным — спачатку на Міцкевіча, а тады ў рэстаране “Джорж”, а пазней і на вуліцы Ягелонскай. І вось калі М.Гурын захацеў увайсці ў кавярню Тамашэвіча (прозвішча гаспадара кавярні М.Машара не называе, бо не называе яго і аўтар успамінаў), — Клінцэвіч стрэліў.

Па сходах, якія вялі ўніз, М.Гурын, відаць, ужо смяротна паранены, уляцеў у памяшканне.

А што галоўны агент? Хіба не кінуўся на Клінцэвіча? Не, не кінуўся, бо — аб чым гаворка была ўжо — умлеў ад страху! Ён жа не смелы чэкіст, а баязлівы дэфензіўшчык!

Тым часам Клінцэвіч увайшоў у кавярню і спачатку... заспакоіў гаспадара, яго жонку і дачку, а таксама ўсіх наведвальнікаў: маўляў, панове, заставайцеся на месцах, вам нічога не пагражае — усё-такі шляхетны ён быў! — і толькі пасля ўжо павярнуўся да М.Гурына, які ляжаў на падлозе, і тройчы націснуў на курок.

І газеты пісалі менавіта пра тры стрэлы ў кавярні, аднак жа (буржуазныя) ні слова не сказалі аб тым, што Клінцэвіч гэтак высакародна абышоўся з гаспадарамі і публікай!

У рамане “Лукішкі” Клінцэвіч — герой, а героі, як вядома, не ўцякаюць!

Калі выйшаў з кавярні, ён скіраваў на вуліцу Міцкевіча, але адтуль ужо беглі паліцэйскія (успомнім: “Кур'ер Віленскі” паведамляў толькі пра аднаго пастарунковага!).

Тады Клінцэвіч “павярнуў назад і пайшоў угору па Ягелонскай вуліцы. Адышоў... толькі крокаў трыста”.

Гэтыя вельмі рахманыя машараўскія дзеясловы — “пайшоў”, “адышоў” — ствараюць ідылічны малюнак адступлення, а да стыку Гданьскай і Віленскай, дзе Клінцэвіча затрымалі, адлегласць большая — не “крокаў трыста”, а добрыя пяцьсот метраў. Кажу так, бо змераў гэты маршрут!

Зрэшты, далей ідзе больш істотная недакладнасць — псіхалагічная, бо на Клінцэвіча, які паціху (!) сабе рухаўся, раптам ні з таго, ні з сяго “наскочыў нейкі малады чалавек і схапіў за пояс, жадаючы затрымаць”. Чаму ён так зрабіў? Чаму гэты маладзён схапіў за пояс невядомага самавітага пана, які проста сабе ішоў па вуліцы?

А пэўна ж таму, што Клінцэвіч не ішоў, бо каб спакойна ішоў — ніхто б на яго не наскочыў! Клінцэвіч, як шалёны, бег і не па ходніку (па віленскіх вузенькіх тратуарах бегаць вельмі нязручна) — ляцеў проста сярэдзінай вуліцы! Аднак жа самае падазронае і не ў тым, што сярэдзінай вуліцы... Ці мала які дурань можа перці на злом галавы па бруку, і што, кожнага такога трэба хапаць за пояс?! Прычына ў іншым...

Ад неверагоднай радасці (а як жа: выканаў заданне!) Клінцэвіч страціў пільнасць, згубіў кантроль над сабой, забыў схаваць зброю і па-вар'яцку сігаў з браўнінгам у руцэ. Гэтая акалічнасць і змусіла неабыякавага вартаўніка дзейнічаць!

І няхай М.Машара пераконвае, што, як толькі Клінцэвічу загарадзілі дарогу, ён “выхапіў з кішэні пісталет і стрэліў у паветра. Чалавек спалохаўся і адскочыў убок”.

Такая яна, пісьменніцкая фантазія...

Не, Клінцэвіч з кішэні пісталет не выхопліваў і ў паветра не страляў, і “нейкі малады чалавек” (начны вартаўнік таварыства Klucze) убок не адскокваў, дый пастарунковы (скажу яшчэ раз: адзін пастарунковы!) не забавіўся. Але каб героя затрымаў нейкі там вартаўнік, няхай сабе і на пару з паліцыянтам?! Не! У савецкім рамане ворагаў, якія акружылі героя, павінна быць, як сабак!

А раз так, то тут ужо і пабегчы можна: “...Клінцэвіч кінуўся ўцякаць, аднак у спешцы згубіў шапку. Паліцэйскія, што беглі за ім, падабралі яе. Клінцэвіч зразумеў, што бегчы па горадзе без шапкі — значыць звяртаць усіх увагу на сябе. Але ён не спыніўся і бег далей, з вуліцы на вуліцу, пакуль не трапіў у акружэнне больш дзесяці паліцэйскіх...”

Во колькі было даганятых паводле партыйнай арыфметыкі, а на справе — толькі дзве душы.

Хапанне за пояс, згубленая шапка, уцёкі без шапкі і страх, што без яе ты для ўсіх заўважны; урэшце, дзясятак з гакам паліцыянтаў — усё ўзята з мемуараў; прыведзеную сцэну М.Машара спісаў амаль слова ў слова!

## 17. Няспраўджаны лідар

На схіле грамадоўскага працэсу пасля пракурораў Раўзэ і Калапскага выступілі адвакаты, і ў ліку першых — абаронца з Варшавы Яўген Смяроўскі. Ён сказаў, што М.Гурыну, як сведку, нельга верыць, бо з 19 студзеня 1925 года М.Гурын страціў з камуністамі ўсялякую сувязь. Называючы акрэсленую дату, адвакат меў на ўвазе наступную акалічнасць: у студзені 1925 года пад Масквой пачаў работу III з'езд кампартыі Польшчы, М.Гурын быў запрошаны на гэты з'езд, аднак жа прыехаць у СССР па вядомай прычыне адмовіўся. Адвакат пераконваў суд: М.Гурына яшчэ задоўга да яго забойства выкінулі з партыі, і таму з пэўнага часу, а менавіта са студзеня 1925 года, ён быў начыста адлучаны ад інфармацыі пра ўнутранае жыццё як КПЗБ, так і “Грамады”. Словам, само сабой напрошвалася рашэнне — пракурорскі сведка праўдзівых звестак не меў!

Я.Смяроўскі даводзіў, што М.Гурын — здраднік і рэнегат, а ягоныя паказанні — звычайная хлестакоўшчына. У гэтым месцы адвакат не без падставы разлічваў на тое, што старшыня разбору Аўсянка, суддзі Ядзевіч, Барэйка ды іхні запасны калега Бжазоўскі Гогаля чыталі і ведалі, што паняцце “хлестакоўшчына” з'яўляецца сінонімам хлусні!

“Гурын заяўляў, што ўся ягоная інфармацыя ад асобы, імя якой раскрыць не можа! Гэта тыповая хітрасць канфідэнта!.. Каб жыў, то быў бы варты кары на доўгія гады турмы, бо ён паклёпнік!” — заключыў абаронца.

Цяжкое, можна сказаць, каменнае заключэнне, і яно добра ўмацоўвае версію “М.Гурын — правакатар”.

У сваім энцыклапедычным артыкуле гісторыкі У.Грамовіч і Т.Процька адзначылі, што гэтая версія лічылася афіцыйнай праз увесь час існавання БССР.

Аднак жа былі і словы Янкі Купалы: “Мусіць, Гурын не такі й вінаваты, і суд гісторыі яго апраўдае!” Ацэнка вялікага паэта, вядома, не архіўны дакумент, але яна мае вагу золата.

Так, суд гісторыі павінен апраўдаць М.Гурына, ці хоць бы зразумець, што ён, робячы страшэнныя памылкі, усё ж такі імкнуўся даказаць сваё: у палітыцы трэба змагацца за беларускія ідэалы!

Заўсёды (і па сённяшні дзень) у афіцыйнай палітыцы якраз і не хапала беларускіх ідэалаў. А каму іх было ажыццяўляць? Яркія ж носьбіты гэтых ідэалаў зніклі без следу, і Беларуссю доўгія дзесяцігоддзі кіравалі слугі...

Сталіністы знішчылі М.Гурына, бо ўбачылі ў ім якасці нацыянальнага лідара. Яго палітычная зорка не паспела ўзысці, але імя яго першае ў жахлівым спісе замардаваных зноў жа сталіністамі нацыянальных правадыроў. А ў гэтым спісе і Цішка Гартны, і А.Чарвякоў, і Б.Тарашкевіч, і В.Ластоўскі, і Антон Луцкевіч...

Дзе магілы вялікіх беларускіх палітыкаў?

Па сённяшні дзень народ носіць кветкі на чужыя магілы!

ПАМЯЦЬ



# Сонечныя промні ад чараўніка слова

**4 жніўня народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю (1917—2006) споўнілася б 96 гадоў. Дата не юбілейная, не круглая... Ды хіба гэта мае значэнне? Тых, хто так узбагаціў, духоўна ўзвысіў свой народ, мы павінны — і будзем — помніць, шанаваць, з удзячнасцю і асалодай дакранацца да шчодрага скарбу, пакінутага нашчадкам.**

**А падарыў нам знаўца і непаўторны майстар беларускага слова жменю сонечных промняў, што нават у змрочныя дні іскрынкай ззяюць у чыстых душах звычайных, не прыкметных на першы погляд людзей, у нязводнай красе роднай прыроды, крынічным пераззвоне матчынай мовы. Сустрэча з кожнай ягонай кнігай, нават старонкай — свята і радасць, бо дораць мудрасць, любоў, чуйнасць да жыцця ва ўсіх праявах.**

**Класік ёсць класік. Гэта было відавочна яшчэ пры жыцці Янкі Брыля. Але ж ой як не любіў Іван Антонавіч гэтае слова, усур'ёз крыўдаваў, калі нехта са знаёмых вымаўляў тое ў яго прысутнасці хай сабе нібыта жартам. Глыбокі мысляр-інтэлектуал і мастак, чыё чалавечае і пісьменніцкае чуццё не абмінала без асэнсавання ніводнага імгнення, дробязі ў паўсядзённым жыцці, пры ўсёй унутранай сур'ёзнасці і засярожанасці быў вясёлы, усмешлівы, здатны на тонкі гумар і жарт у асяродку родных, сяброў, знаёмых. У ім свяціліся дабрыня і цеплыня, якіх хапіла і хапае на многіх.**

***На гэтым здымку (1967 г.) з сямейнага архіва — Іван Антонавіч Брыль разам са сваім сынам Андрэем. Такім, у прасветлены, шчасны момант жыцця, хочацца яго і запомніць.***

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

СЛЫШАЛИ?

# Не забудьте поменять телевизор

*В Беларуси 1 августа начался переход на цифровое телевидение. Первыми от аналогового вещания отказались Осиповичи.*



Только временно для этого райцентра сохраняется возможность приема трех телепрограмм в аналоговом формате, которые будут транслироваться из Колодищей и Бобруйска.

Кстати, Бобруйск отключат от аналогового телевидения в октябре.

Вместе с Бобруйском на цифровое телевидение должен перейти Жлобин, в ноябре — Костюковичи. Полный уход от аналогового телевидения завершится к 2015 году.

Не все модели телевизоров принимают “цифровую картинку”, поэтому людям придется раскошелиться либо на новые телевизоры, либо на специальные приставки.

Напоминаем, что для приема телепрограмм в новом формате необходимо иметь телевизор с поддержкой стандарта DVB-T и формата кодирования MPEG-4.

# В Беларуси прекращена продажа дорожных чеков American Express

Напомним, что этим платежным документы многие белорусы пользовались при подаче документов в зарубежные посольства. В частности, это касалось тех случаев, когда при открытии визы требовалось подтверждение финансовой состоятельности заявителя.

Однако с 1 августа продажа дорожных чеков American Express прекращена. Представители компании не комментируют причину принятого решения.

В Беларуси с дорожными чеками American Express работали “Белагропромбанк”, “Белинвестбанк”, “БПС-Сбербанк”, “МТБанк”. Также некоторые белорусские банки продолжают работу с дорожными чеками других компаний. В частности, “БПС-Сбербанк” принимает к оплате дорожные чеки Interpayment Visa, MasterCard компании Travelex Global & Financial Services London England.

ЖАХ!

# Затрымалі падазронага ў расчляненні пінчука

Гэтая страшная знаходка ўскалыхнула Пінск. Цела 26-гадовага мясцовага жыхара, якога шукалі тыдзень, знайшлі ў лесе каля пляжа. Ён быў прысыпаны зямлёй і прыкрыты галлём. У яго былі адрэзаны нага і рука, якія ляжалі побач.

Як паведамілі ва УУС Брэсцкага аблвыканкама, падазроны ў гэтым дзікім злачынстве затрыманы. Ім аказаўся жыхар Пінска, 1988 года нараджэння. Забойства ён здзейсніў нажом 21 ліпеня каля 13-й гадзіны.

Іншыя акалічнасці не раскрываюцца, пакуль з затрыманым працуюць следчыя.

Андрэй (так завуць ахвяру) знік 21 ліпеня. Апошні раз яго бачылі на плошчы Леніна ў Пінску прыкладна за дзве гадзіны да смерці.

Вядома, што хлопец быў нежанатым, беспрацоўным. Жыў з маці. Яна і паведаміла ў міліцыю пра знікненне.

Крымінальная справа заведзена за забойства. Пакаранне па гэтым артыкуле прадугледжвае зняволенне ад 6 да 15 гадоў.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# В Минске в мусоропровод выбросили целый пакет оружия

На линии сортировки отходов одного из столичных коммунальных предприятий по улице Селицкого при разборе привезенного мусора 30 июля коммунальщики обнаружили пакет с газовым оружием и боеприпасами.

Как сообщает ГУВД Мингорисполкома, на место происшествия прибыли саперно-пиротехническая и следственно-оперативная группы Заводского РУВД Минска. Милиционеры обследовали подозрительный пакет, изъяв оттуда 70 единиц боеприпасов к газовому оружию, газовые револьвер и пистолет, 190 патронов к спортивному оружию и 25 — к боевому, а также учебную гранату Ф-1. Находку направили на экспертизу.

Проводится проверка. В милиции предполагают, что хозяин оружия решил просто избавиться от незаконного арсенала, опасаясь наказания, и выбросил его в мусоропровод. Хотя в случае добровольной сдачи оружия правоохранительным органам владелец освобождается от ответственности.

